### УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 487
### АБ ПРАВЯДЗЕННІ ПЕРАГАВОРАЎ ПА ПРАЕКТУ ДАГАВОРА ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І РЭСПУБЛІКАЙ ПОЛЬШЧА АБ РЭЖЫМЕ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ГРАНІЦЫ, СУПРАЦОЎНІЦТВЕ І ЎЗАЕМНАЙ ДАПАМОЗЕ ПА ПАГРАНІЧНЫХ ПЫТАННЯХ

1. Прыняць прапанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб правядзенні перагавораў па праекту Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча аб рэжыме беларуска-польскай дзяржаўнай граніцы, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе па пагранічных пытаннях.

Адобрыць праект гэтага Дагавора ў якасці асновы для вядзення перагавораў*.

2. Упаўнаважыць Старшыню Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь А. А. Паўлоўскага на фарміраванне дэлегацыі і правядзенне перагавораў па праекту Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча аб рэжыме беларуска-польскай дзяржаўнай граніцы, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе па пагранічных пытаннях.

Дазволіць А. А. Паўлоўскаму ўносіць у ходзе перагавораў у праект названага Дагавора змяненні і дапаўненні, якія не маюць прынцыповага характару.

**Прэзідэнт**
**Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**
8 кастрычніка 1998 г., г. Мінск.

### УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 491
### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ ВА ЎКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 4 СНЕЖНЯ 1997 г. № 626

1. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 снежня 1997 г. № 626 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці судоў Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 35, арт.1089) наступныя змяненні і дапаўненні:

1.1. частку шостую пункта 3 Палажэння аб кваліфікацыйных калегіях суддзяў судоў Рэспублікі Беларусь, зацверджанага названым Указам, выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«У састаў кваліфікацыйных калегій суддзяў з правам рашаючага голасу ўключаюцца па аднаму прадстаўніку адпаведнага органа юстыцыі»;

дапоўніць пункт часткамі наступнага зместу:

«Прадстаўнікі органаў юстыцыі зацвярджаюцца загадам Міністра юстыцыі ў састаў кваліфікацыйных калегій:

суддзяў Вярхоўнага Суда, суддзяў ваенных судоў — па ўзгадненню са Старшынёй Вярхоўнага суда з ліку членаў калегіі Міністэрства юстыцыі;

суддзяў гаспадарчых судоў — па ўзгадненню са Старшынёй Вышэйшага гаспадарчага суда з ліку членаў калегіі Міністэрства юстыцыі;

суддзяў абласцей (г.Мінска) — з ліку кіраўнікоў падраздзяленняў юстыцыі адпаведных мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў або іх намеснікаў.

Прадстаўнікі органаў юстыцыі ў кваліфікацыйных калегіях суддзяў ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на працягу тэрміну, на які фарміруюцца кваліфікацыйныя калегіі суддзяў»;

1.2. абзац трэці пункта 15 Палажэння аб кваліфікацыйнай атэстацыі і кваліфікацыйных класах суддзяў судоў Рэспублікі Беларусь, зацверджанага названым Указам, выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«першы, другі, трэці і чацвёрты кваліфікацыйныя класы — старшыням, намеснікам старшынь абласных, Мінскага гарадскога, раённых (гарадскіх), Беларускага ваеннага судоў, міжгарнізонных ваенных судоў і гаспадарчых судоў абласцей, а таксама суддзям абласных, Мінскага гарадскога, Беларускага ваеннага судоў і гаспадарчых судоў абласцей»;

дапоўніць пункт абзацам наступнага зместу:

«трэці, чацвёрты і пяты кваліфікацыйныя класы — суддзям па адміністрацыйных справах і выканаўчых вядзеннях».

2. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт**
**Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**
9 кастрычніка 1998 г., г.Мінск.

*У Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*

## ІНФАРМАЦЫЯ АБ ЖЫЦЦІ СУСЕДЗЯЎ ПАВІННА БЫЦЬ ДАКЛАДНАЙ І АБ'ЕКТЫЎНАЙ

Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч 9 кастрычніка прыняў украінскую дэлегацыю на чале з міністрам інфармацыі Зіновіем Кулікам.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, у ходзе гутаркі адзначалася важнасць сумеснай работы па забеспячэнню жыхароў Беларусі і Украіны дакладнай і аб'ектыўнай інфармацыяй аб працэсах, што адбываюцца ў сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцці дзвюх краін.

На сустрэчы абмяркоўваліся пытанні беларуска-ўкраінскага эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва, а таксама іншыя праблемы, якія маюць узаемную цікавасць.

**БЕЛТА.**

## ДАРОГА ДА СВАЯКОЎ СТАЛА ДАРАЖЭЙШАЙ

**Як і прадказвала «Звязда», у краіне павялічаны тарыфы на паслугі прыгараднага і міжгародняга аўтамабільнага пасажырскага транспарту.**

Так, згодна з выдадзеным міністэрствам загадам, з 16 кастрычніка кошт аднаго кіламетра праезду ў аўтобусах агульнага тыпу складае 700 рублёў (было, нагадаем, 540 рублёў), у машынах з мяккімі крэсламі — 730 рублёў (было 560 рублёў). Падаражанне паслуг дарогі абумоўлена выдаткамі на паліва, запчасткі і г. д., якія пастаянна павялічваюцца. Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», на чарзе — падпісанне загада і аб павелічэнні тарыфаў на паслугі таксі. Гэтая працэдура павінна адбыцца літаральна днямі. Нагадаем: зараз кіламетр праезду ў таксі каштуе 11 тысяч рублёў. Што да гэтага віду перавозак, дык яна закране нямногіх, але тым, хто хаця б зрэдку карыстаецца таксі, варта памятаць, што разам з дзяржаўнымі таксапаркамі ўзнімуцца тарыфы і ў прыватнікаў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*СВЕЦКАЯ ХРОНІКА*

## ІВАН ІВАНКОЎ — БЕЛАРУСКІ ЛЕАНАРДА ДЗІ КАПРЫА?

Днямі да вядомага беларускага гімнаста Івана Іванкова наведаліся нечаканыя госці — тэлевізіёншчыкі з Кітая.

Іх цікавасць да Вані была не проста так — напярэдадні чэмпіянату свету, які, дарэчы, і пройдзе ў Кітаі, рыхтуецца фільм пра гімнастаў, а пра каго ж тады здымаць, як не пра абсалютнага чэмпіёна свету Івана Іванкова?

Зрэшты, Ваню ўжо не прывыкаць. Напярэдадні Гульняў добрай волі ён здымаўся ўжо для амерыканцаў. Кажуць, заакіянскія госці казалі нашаму гімнасту «о'кей» ужо пасля трэцяга дубля. Ну чым не беларускі Леанарда Дзі Капрыа?

**Алесь СІВЫ.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ АБІРАЕМ У 1999-м. ХУТКА БУДЗЕМ ВЕДАЦЬ ЯК...

**Беларускі парламент і іншыя суб'екты заканадаўчай ініцыятывы мэтанакіравана працуюць над праектам Выбарчага кодэкса, у якім мяркуецца аб'яднаць усе заканадаўчыя акты, што маюць адносіны да сістэмы выбараў. Работа ідзе з такім разлікам, каб да 2000 года, напярэдадні чарговых выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, дакумент уступіў у сілу.**

Але яшчэ да фарміравання новага саставу парламента, у наступным годзе беларусам прыйдзецца прыйсці на выбарчыя ўчасткі, каб выказацца адносна кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Таму адзін з выбарчых дакументаў будзе прымацца фарсіраванымі тэмпамі асобна ад Выбарчага кодэкса — Закон «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў».

Яго праект быў перададзены з Адміністрацыі Прэзідэнта ў Палату прадстаўнікоў яшчэ ў чэрвені гэтага года. За некалькі месяцаў змест законапраекта прааналізаваны не толькі парламенцкімі камісіямі, але і палітычнымі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, прадстаўнікамі мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Паводле слоў намесніка Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту Мікалая Лазавіка, было атрымана каля 200 паправак і заўваг да законапраекта. Іх можна раздзяліць на тры катэгорыі: адны супярэчаць Канстытуцыі, другія, наадварот, удакладняюць пэўныя нормы праекта ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, трэція ў цэлым паляпшаюць рэдакцыю дакумента. Адбылося пашыранае пасяджэнне камісіі, дзе гэтыя прапановы былі падрабязна прааналізаваны ўсімі зацікаўленымі бакамі.

М. Лазавік сцвярджае, што ў абмеркаванні законапраекта бралі ўдзел і прадстаўнікі апазіцыйных арганізацый. У якасці прыкладаў былі названы Аб'яднаная грамадзянская і Ліберальна-дэмакратычная партыі, Партыя камуністаў беларуская, два грамадскія аб'яднанні. Але канкрэтныя прозвішчы апазіцыйных палітыкаў М. Лазавік так і не назваў. У сваю чаргу, лідэры апазіцыі адмаўляюць факт удзелу ў пасяджэнні камісіі і абмеркаванні законапраекта, а таксама адмаўляюць наяўнасць стасункаў з Нацыянальным сходам.

Тым не менш, шэраг паправак, якія камісія адрасуе апазіцыі, былі ўлічаны і папярэдне адобраны дэпутатамі. Гэта, напрыклад, датычыцца неабходнасці больш дакладнага ўрэгулявання ўдзелу ў выбарах незалежных назіральнікаў, спрашчэння працэдуры збору подпісаў, удакладнення працягласці датэрміновага галасавання (прапануецца скараціць гэты тэрмін з 10 да 5 дзён) і іншых прапаноў. Але адначасова ёсць прапановы, якія камісія адхіліла. Так, яе члены нязгодныя з тым, каб пазабюджэтнае фінансаванне выбараў, якое дапускаецца законам, было мэтавым, а не агульным. Не адобраны камісіяй прапановы аб ліквідацыі адказнасці за байкатаванне выбараў і адмене практыкі стварэння выбарчых акруг у медыцынскіх установах і ваенных часцях.

Спрэчнай была названа прапанова аб зніжэнні планкі ўдзелу выбаршчыкаў у галасаванні. Напрыклад, у сённяшнім заканадаўстве прадугледжваецца 50-працэнтны ўдзел грамадзян для таго, каб выбары былі прызнаны адбыўшыміся ў першым туры, і 25-працэнтны — у другім. У праекце новага закона фігуруе толькі лічба 50. Але, улічваючы невысокую актыўнасць выбаршчыкаў, у выніку чаго падчас апошніх выбараў доўга не ўдавалася сфарміраваць тыя ж мясцовыя Саветы, у камісію паступіла некалькі прапаноў аб зніжэнні планкі ўдзелу. Члены камісіі пакуль канчаткова не вызначыліся адносна гэтай прапановы.

Затое ў іх існуе, відаць, адзіная думка аб прадастаўленні права абіраць і быць абранымі ў мясцовыя Саветы грамадзянам Расіі, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі. Як сказаў М. Лазавік, айчынная Канстытуцыя не забараняе такой магчымасці, таму камісія не ставіць пад сумненне правамернасць становішча, калі ў абласныя, гарадскія ці раённыя Саветы трапяць грамадзяне іншай дзяржавы.

Як сказаў старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту Анатоль Красуцкі, нават у сённяшнім выглядзе праект закона «Аб выбарах мясцовых Саветаў» гатовы да прыняцця ў першым чытанні. І толькі пасля таго, як ён будзе адобраны Палатай прадстаўнікоў канцэптуальна, можна будзе прыступаць да ўнясення паправак і змяненняў у тэкст дакумента. Тым не менш, неўзабаве адбудзецца нарада з прэзідэнтам, на якой яшчэ раз будзе абмяркоўвацца законапраект і шэраг прапаноў да яго. Дэпутаты адзначылі, што вялікай патрэбы ў гэтай сустрэчы няма, але яна праводзіцца для таго, каб папярэдзіць магчымыя спрэчныя пытанні, якія могуць узнікнуць ўжо ў працэсе падрыхтоўкі дакумента да другога чытання.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***Сафія РАТАРУ:***

## «Я ЗНАЙШЛА СВАЮ КВЕТКУ ШЧАСЦЯ»

*Дзевятага кастрычніка, пасля сямігадовага перапынку, Сафія Ратару зноў прыехала ў беларускую сталіцу, дзе выступала ў канцэртнай зале «Мінск». Канцэрт адбыўся ў рамках новага тура спявачкі «Кахай мяне». Дарэчы, ён пачаўся менавіта на беларускай зямлі, у Гомелі. У шоу прымала ўдзел вялікая група танцоўшчыкаў з балета «Modern», а таксама родная сястра спявачкі, заслужаная артыстка Украіны Аурыка Ратару.*





Трэба сказаць, што ад сустрэчы з журналістамі, у тым ліку з папулярнай перадачы «Карамболь», Сафія Ратару адмовілася. Аднак карэспандэнту «Звязды» ўдалося задаць ёй адно пытанне.

*— Сафія Міхайлаўна, улічваючы тое, што вы так доўга не былі ў Мінску, за гэты час вырасла новае пакаленне вашых прыхільнікаў. Ці не маглі б вы расказаць, як складваўся ваш творчы шлях?*

— Пачалося ўсё вельмі даўно. Дзевяцікласніцай на абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці я атрымала дыплом першай ступені, затым заняла першае месца ў рэспубліцы. Пасля школы паступіла ў Чарнавіцкае вучылішча на дырыжорска-харавое аддзяленне, бо вакальнага там не было. Усе гэтыя гады вучобы выступала з эстрадна-маладзёжным ансамблем фізіка-матэматычнага факультэта мясцовага універсітэта. У 1968 годзе стала лаўрэатам Міжнароднага фестывалю моладзі і студэнтаў у Сафіі. Памятаю, балгарскія газеты тады пісалі: «Сафія пакарыла Сафію!» Пасля фестывалю тры гады працавала педагогам у культасветвучылішчы. І ўсё ж цягнула, вабіла да сябе эстрада.

Пачынала я з народных песень, якія гучалі ў родным сяле Маршанцы. Сяло наша невялікае, вельмі прыгожае: на сценах дамоў намаляваны кветкі, арнаменты, у вокнах рознакаляровыя шыбы. І народ музычны: спявалі ўсе — ад малога да вялікага. Бацька, калі ўсе справы былі параблены, казаў: «А цяпер будзем спяваць!» Ён цвёрда верыў, што я абавязкова стану артысткай.

Праўда, невядома, як бы склаўся мой далейшы творчы лёс, ды і наогул жыццё, калі б аднойчы невядомы тады нікому малады кампазітар Уладзімір Васюк не прынёс мне знакамітую «Чырвону руту».

Вось так я і знайшла свайго кампазітара, які змог у эстрадных песнях захаваць любімы мною фальклорны каларыт, унёсшы ў народную песню сучасны рытм. Вось так я набыла свой стыль, свае інтанацыі. І гэта я пастаралася пранесці праз усе гады свайго творчага жыцця. Сёння, дарэчы (9 кастрычніка) споўнілася 28 гадоў, як я ўпершыню выйшла на прафесійную сцэну. У нас у Закарпацці існуе такі звычай: у ноч на Івана Купалу дзяўчаты шукаюць кветку шчасця — «чырвоную руту». Мне здаецца, сваё шчасце я знайшла. У песні.

На развітанне Сафія Міхайлаўна і Аурыка Ратару пажадалі чытачам «Звязды» знайсці сваю кветку шчасця.

**Вольга РАМАНЮК.**

*Віншуем калектыў «Захадэлектрасеткабуда» з 30-годдзем з дня заснавання. Жадаем працоўных поспехаў і дабрабыту.*
**ДП «Захадэлектрасеткагандаль».**

**Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў чацвер, 15 кастрычніка.**

*ГАНДБОЛ: КУБАК ЧЭМПІЁНАЎ*

## АРМІЯ ВЫРАТАВАННЯ

У мінулую нядзелю гандбалісты мінскага СКА прымалі дома ў сустрэчы ў адказ 1/16 фіналу Кубка чэмпіёнаў югаслаўскую «Црвену Звезду»...

Нагадаем, што тыдзень таму армейцы пасля самых сапраўдных блуканняў па пакутах і па паветры (наша газета расказвала аб гэтым) прайгралі ў Бялградзе «звездаўцам» — 22:30. Што і казаць, розніца ў 8 мячоў была даволі ўнушальнай, і ліквідаваць яе ў Мінску было вельмі няпроста.

На шчасце, падапечныя Спартака Мірановіча ў адказнай сустрэчы паказалі проста цудагульню, а нашага варатара Фешчанку і наогул можна назваць героем дня. Перамога беларусаў — 32:19, і мы — у Лізе чэмпіёнаў!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

***Футбол. Адборачны турнір ЧЭ-2000***

**Міхаіл ВЯРГЕЕНКА:**

## «БУДЗЕМ СПАДЗЯВАЦЦА НА ФАРТУНУ»

***Заўтра, 14 кастрычніка, нацыянальная зборная Беларусі правядзе другі адборачны матч чэмпіянату Еўропы са зборнай Уэльса.***

На паядынак з валійцамі беларусы адправіліся ўчора з аэрапорта «Мінск-2» чартэрным авіярэйсам. Састаў падначаленых Міхаіла Вяргеенкі наступны:

**Варатары** — Андрэй Сацункевіч («Дынама», Мінск), Валерый Шанталосаў («Тарпеда», Масква). **Абаронцы** — Эрык Яхімовіч («Дынама», Масква), Андрэй Лаўрык («Лакаматыў», Масква), Сяргей Штанюк, Андрэй Астроўскі (абодва — «Дынама», Масква), Вячаслаў Герашчанка («Чарнаморац», Новарасійск), Аляксандр Сяднёў («Балтыка, Калінінград), Ігар Тарлоўскі («Аланія», Уладзікаўказ). **Паўабаронцы** — Аляксандр Хацкевіч, Валянцін Бялькевіч (абодва — «Дынама», Кіеў), Васіль Баранаў («Спартак», Масква), Сяргей Гурэнка («Лакаматыў», Масква), Радзіслаў Арлоўскі («Тарпеда», Масква), Аляксандр Чайка («Аланія»), Сяргей Герасімец («Зеніт», Санкт-Пецярбург), Аляксандр Кульчый («Дынама», Масква). **Нападаючыя** — Уладзімір Макоўскі («Дынама», Кіеў), Максім Рамашчанка («Дынама», Масква), Васіль Мазур («Гомель»).

Яшчэ адзін прэтэндэнт на месца ў асноўным саставе — ігрок англійскага «Шэфілд Юнайтэд» Пётр Качура — далучыўся да зборнай у сталіцы Уэльса. Дарэчы, карэспандэнт «Звязды» таксама разам са зборнай Беларусі адправіўся на Уэльс, а таму ў бліжэйшых нумарах газеты чытайце рэпартаж з месца падзей. Напярэдадні адлёту ў Вялікабрытанію ён задаў некалькі пытанняў галоўнаму трэнеру нацыянальнай зборнай Беларусі Міхаілу Вяргеенку.

**— Міхаіл Нічыпаравіч, трэнерскі штаб нашай зборнай мае якую-небудзь інфармацыю пра саперніка?**

— У нас ёсць відзазапіс апошніх матчаў з удзелам валійскай зборнай. Да таго ж на суботні адборачны матч Данія — Уэльс мы пасылалі свайго «разведчыка». Тыповая брытанская зборная. Мабільная, добра ўкамплектаваная, якая ўмее вельмі добра гуляць на «другім паверсе».

**— Тады чым можна растлумачыць, што ўэльская каманда мае вельмі нізкі рэйтынг ФІФА? Ён пачынаецца аж з другой сотні. Дарэчы, у беларусаў прыкладна такі ж паказчык.**

— Рэйтынг — паняцце вельмі адноснае. Перш за ўсё неабходна паважаць свайго саперніка і паказваць прафесійны футбол.

**— Як збіраецеся пабудаваць гульню? На што можна спадзявацца айчынным балельшчыкам?**

— На наша паспяховае ці дастойнае выступленне. Будзем старацца згуляць вельмі строга ў абароне, імгненна пераходзіць з абароны ў атаку, і наадварот. Ну і, канешне, спадзявацца на фартуну.

**— Трэніровачны матч з БАТЭ даў вам падставу задумацца над мэтамі і задачамі зборнай?**

— На мой погляд, «зборнікі» згулялі нармальна. Шкада, што галоў забіта малавата. Але ж перамога з любым лікам — гэта перамога. Адпраўляючыся на матч са зборнай Уэльса, мы гэта выдатна ўсвядомілі.

Між тым, наш сапернік, здаецца, пачаў лавіць сваю гульню, аб чым сведчыць суботні выйгрыш зборнай Уэльса ў гасцях над датчанамі з лікам 2:1 у адборачным матчы да чэмпіянату Еўропы. Яшчэ ў адным матчы першай групы яе фаварыты італьянцы без асаблівых праблем дома разабраліся са швейцарцамі — 2:0 і ўпэўнена ўзначальваюць турнірную табліцу, якая прыняла наступны выгляд:

**Група № 1**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Італія | 2 | 2 | 0 | 0 | 4-0 | 6 |
| 2. Уэльс | 2 | 1 | 0 | 1 | 2-3 | 3 |
| 3. Беларусь | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 4. Данія | 2 | 0 | 1 | 1 | 1-2 | 1 |
| 5. Швейцарыя | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-2 | 0 |

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ПРАШТРАФІЛІСЯ ГАНДЛЯРЫ

У Віцебскай вобласці ажыццёўлена праверка асобных пытанняў фінансава-гаспадарчай дзейнасці «Гандлёвага дома «Надзея» (дырэктар В. Н. Гарнакоў), які з'яўляецца даччыным прадпрыемствам АТ «Багушэўскмэбля». Устаноўлена, што прадпрыемства, маючы ліцэнзію на рознічны гандаль алкагольнымі і тытунёвымі вырабамі, займалася і рэалізацыяй іншых тавараў. Даход ад безліцэнзійнай дзейнасці склаў 210,8 млн. руб.

Да гандлёвага дома прыменены эканамічныя санкцыі ў суме 421,6 млн. руб., на яго дырэктара В. Н. Гарнакова зроблена грашовае налічэнне ў суме 2,8 млн. руб.

Праведзена таксама праверка шэрагу іншых прадпрыемстваў гандлю і дробнай розніцы г. Віцебска, у ходзе якой выяўлены шэраг парушэнняў.

Пры праверцы Віцебскага гарплодаагароднінагандлю (дырэктар В. А. Мацкевіч) устаноўлена негатоўнасць да сезона нарыхтоўкі халадзільных камер і памяшканняў, прызначаных для захоўвання капусты і садавіны. З 5 наяўных кампрэсараў, што абслугоўваюць халадзільныя камеры, у рабочым стане знаходзяцца толькі 3. У сховішчах няспраўная сістэма вентыляцыі.

Бульба на захоўванне закладваецца без сартавання, нестандарт і адходы не адбракоўваюцца. Не ажыццяўляецца кантроль за ўтрыманнем радыенуклідаў. Выяўлены факт захоўвання 24 тон кіслай капусты, тэрмін захоўвання якой скончыўся ў ліпені г. г. Рэалізацыя капусты забаронена.

У паўаптовым магазіне № 16 Віцебскага гарплодаагароднінагандлю (загадчык магазіна С. С. Шаўчэнка), які абслугоўвае закрытыя ўстановы, агародніна рэалізоўвалася без пераборкі. Магазінам прададзена 706 кг нестандартнай морквы на суму 11,8 млн. руб. Рэалізацыя агародніны на суму 5,3 млн. руб. забаронена.

За рэалізацыю нестандартнай агародніны да гарплодаагароднінагандлю прыменена эканамічная санкцыя ў суме 11,8 млн. руб., загадчык магазіна С. С. Шаўчэнка аштрафаваны на суму 1,0 млн. руб.

Праведзена 5 праверак гандлёвай дзейнасці прыватных прадпрымальнікаў Верхнядзвінскага раёна, у ходзе кожнай з якіх выяўлены факты рэалізацыі па завышаных цэнах цыгарэт вытворчасці Гродзенскай тытунёвай фабрыкі. Так, прыватным прадпрымальнкам А. Н. Белазорам па завышаных цэнах рэалізавана 2,6 тыс. пачкаў цыгарэт, у выніку чаго атрымана залішняя выручка ў суме 13,2 млн. руб.

Сума эканамічных санкцый, прымененых да А. Н. Белазора, склала 26,4 млн. руб. За аналагічныя парушэнні да прыватных прадпрымальнікаў А. Д. Мельніка, Н. В. Шчаснай, Л. М. Даргель і Н. Н. Крука прыменены эканамічныя санкцыі на агульную суму 19,9 млн. руб.

**Аддзел сацыяльна-эканамічнага аналізу Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.**

# БОЛЬШ ЦУКРУ — МЕНШ АЖЫЯТАЖУ Ў КРАМАХ?

**На Скідальскім цукровым камбінаце атрымалі першую прадукцыю з новага ўраджаю.**

З 28 верасня па 12 кастрычніка ад гаспадарак вобласці, у асноўным пакуль Гродзенскага раёна, прынялі на перапрацоўку 80 тысяч тон буракоў. Увогуле сёлета чакаюцца пастаўкі 300 тысяч тон пры дзяржзаказе 235 тысяч тон. Для параўнання: у мінулым сезоне на камбінаце перапрацавалі 258 тысяч тон айчыннай сыравіны. Дарэчы, гэты год для прадпрыемства — рэкордны. Звыш 30 тысяч тон цукру з буракоў і прыкладна 73 тысячы тон з сырцу — такіх паказчыкаў у яго гісторыі яшчэ не было. І нягледзячы на гэта — ажыятажны попыт, чэргі, нормы водпуску ў крамах. Якая ж перспектыва на бліжэйшую будучыню?

Па словах галоўнага агранома камбіната Ігната Малмыгі, летась у пачатку нарыхтовах цукрыстасць сыравіны складала 17,4 працэнта пры базіснай 16 працэнтаў. А цяпер пакуль у сярэднім 16,2 працэнта. Дажджлівае лета зрабіла сваё. Горшай, праўда, цукрыстасць ужо не будзе, але і мінулагодняй, на жаль таксама. Ці азначае гэты мінус, што сёлета на прадпрыемстве вырабяць менш цукру? Не, перакананы Ігнат Юльянавіч. Справа ў тым, што пасяўныя плошчы ў калгасах і саўгасах скідальскай цукровай зоны павялічыліся на 600 гектараў. Да таго ж сярэдняя вага аднаго кораня на 120 грамаў большая, іх гушчыня на гектар таксама вышэйшая, чым летась. Таму на камбінаце разлічваюць, што з сёлетняга ўраджаю ў параўнанні з мінулым годам будзе выраблена цукру на паўтары-дзве тысячы тон больш. Традыцыйныя адрасы збыту скідальскай прадукцыі — у асноўным Гродзенская і Віцебская вобласці.

Карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся ў аддзеле маркетынгу камбіната, калі ж цукар з буракоў новага ўраджаю з'явіцца на прылаўках і колькі ён будзе каштаваць. Пакуль гэта невядома. Прадпрыемства накіравала ў сталіцу свае разлікі і прапановы па цане, і, калі яна будзе задэкларавана, прадукцыя адразу ж пойдзе ў гандаль. Магчыма, ужо на гэтым тыдні.

Што датычыцца ажыятажнага попыту на цукар, які назіраецца ў апошнія месяцы, дык даваць прагнозы на будучыню на камбінаце не бяруцца. Нават з улікам павелічэння вытворчасці салодкай прадукцыі гэта залежыць у першую чаргу ад фінансавай стабільнасці ў краіне, узроўню інфляцыі і, адпаведна, інфляцыйных чаканняў, якія заўсёды выклікаюць ажыятаж у крамах.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# ВОЛАТ НА ГЛІНЯНЫХ НАГАХ?

## Сённяшняя вёска пакуль захоўвае харчовую бяспеку дзяржавы, але можа працаваць толькі ў доўг

**Вёска, якая вось ужо не першы год балансуе на мяжы сапраўднага банкруцтва, і сёлета забяспечыла харчовую бяспеку краіны: аб'ём прадукцыі, што завозіцца ў Беларусь, не перавышае крытычнай мяжы (у дадзеным выпадку гэтая лічба складае 25 працэнтаў ад агульнай колькасці). Восень — пара, калі прынята «лічыць куранят» і гаварыць аб набалелым. Для гэтага з'явіўся час — блізкія да завяршэння асноўныя сельскагаспадарчыя работы. Наперадзе — жніво-99. З чым мы прыйдзем да яго? Аб гэтым і ішла размова падчас нядаўняга рэспубліканскага семінара па асвятленню пытанняў дзейнасці АПК, які адбыўся ў Клецку.**

### НА КОЖНАГА ЖЫХАРА...

Сёлета гаспадаркамі ўжо выраблена (ці мяркуецца вырабіць) каля 500 кілаграмаў збожжа (маецца на ўвазе вага пасля дапрацоўкі) у разліку на кожнага жыхара Беларусі. Гэта ўзровень еўрапейскіх краін. Лічба, праўда, ніжэй, чым разлічвалі спецыялісты, але ж наша дзяржава і сёлета будзе забяспечана харчовым зернем аўса, ячменю, жыта.

Чакаецца і някепскі ўраджай бульбы — працэнтаў на 30 вышэй, чым летась. Такім чынам, па падліках, на кожнага жыхара атрымаецца не менш як 800 кілаграмаў «другога хлеба».

Прырост чакаецца і па агародніне — 122 кілаграмы (плюс 8 кілаграмаў да ўзроўню 1997 года). Як запэўніваюць спецыялісты, асноўныя віды (капуста, морква, буракі) будуць уласнай вытворчасці.

Плюсаваць павінна і мяса — 64 кілаграмы на кожнага жыхара (на 2,3 кг больш, чым летась), малако — 521 (+21) і яйкі — 350 штук (на 13 больш).

Усяго ж за восем месяцаў 1998 года прырост вытворчасці жывёлы і птушкі склаў 9 працэнтаў, малака — 6, таварнай прадукцыі — 16. Па папярэдняй ацэнцы, прырост валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі за год павінен скласці каля 4 працэнтаў.

### ЧЫМ КАРМІЦЬ УЗІМКУ ЖЫВЁЛУ?

Праблема нарыхтоўкі кармоў сёлета існуе — аб'ёмы невысокія (у межах 18,3 цэнтнера кармавых адзінак на ўмоўную галаву жывёлы). Аднак і гэтыя лічбы, на думку спецыялістаў, дазваляюць забяспечыць нармальную зімоўку, бо ў папярэднія гады былі і меншыя паказчыкі.

Нізкія аб'ёмы нарыхтовак адбыліся перш за ўсё з-за надвор'я — паводле апошніх даных, на 540 тысячах гектараў па прычыне прыродных катаклізмаў сёлета поўнасцю загінулі культуры, а матэрыяльны ўрон толькі па раслінаводству склаў больш чым 9 трыльёнаў рублёў.

### СУМНАЕ СЛОВА «ДЫСПАРЫТЭТ»

Рэаліі дня сённяшняга: сёлета вёска прадавала дзяржаве збожжа нават танней, чым летась. Аб гэтым можна зараз пачуць ледзь не ад кожнага кіраўніка гаспадаркі. Выручка ад рэалізацыі прадукцыі не пакрывае затрат на новую вытворчасць. Прычым параўнанне цэн выклікае хіба што сумную ўсмешку — так, дырэктар племзавода «Чырвоная зорка» Клецкага раёна Іосіф Плаўскі казаў, што ў параўнанні з літрам малака літр «Спрайта» каштуе ў адзінаццаць (!) разоў больш. Аднак і ў гэткіх умовах гаспадаркі яшчэ неяк выжываюць. Пакутуе і перапрацоўка — на тым жа Клецкім масларобным камбінаце пастаўкі сыравіны значна скараціліся. Аднак ім пакуль грэх скардзіцца — вытворцам усё ж цяжэй. Цэны на прадукцыю раслінаводства і жывёлагадоўлі з 1991 па 1998 год выраслі прыкладна ў 10—20 разоў менш, чым цэны на тое, што выкарыстоўвае для сваіх патрэб вёска (тэхніка, паліва, угнаенні і г. д.). Так, калі раней кошт камбайна «Дон» быў эквівалентны кошту 115 тон бульбы, то зараз — 512, трактара «МТЗ-82» — 36 (64). Тую ж тэхніку (маецца на ўвазе камбайн «Дон» і трактар «МТЗ-82») можна было набыць за 80 і 25 тон збожжа адпаведна, зараз гэтыя лічбы складаюць 556 і 70 тон. Адчуваеце розніцу? Дыспарытэт цэн павялічваецца, адпаведна і тэхнічны парк старэе і зношваецца. Гаспадаркі, што называецца, імкнуцца ісці «іншымі шляхамі» — набываюць тэхніку па бартэру, лізінгу, шукаюць выхад на замежныя фірмы. Прычым камбайны і трактары ідуць у гаспадаркі не з канвеера — кожная машына мае «за плячыма» ледзь не дзесятак гадоў. Але і такая тэхніка дазваляе палепшыць якасць уборкі. Як заўважыў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення па вытворчасці і перапрацоўцы прадукцыі раслінаводства Вячаслаў Герасімовіч, дыктат тэхналогіі цалкам прымыльны. Толькі вось якім чынам гэта забяспечыць?

### ШТО МАЕМ...

Фінансавае становішча гаспадарак, мякка кажучы, далёкае ад ідэальнага. Дэфіцыт сродкаў страшэнны — паводле даных, на пачатак верасня 1998 года на рахунках гаспадарак знаходзілася 79,8 мільярдаў рублёў. Атрымліваецца прыкладна 300 мільёнаў на гаспадарку (няпоўны фонд месячнай заработнай платы?). У той жа час крэдыторская запазычанасць складала 16,5 трыльёна рублёў (6,5 мільярда на гаспадарку). А запазычанасць па пазыках — каля 3 мільярдаў на гаспадарку. Фонд нявыплачанай вяскоўцам заработнай платы склаў 1,5 трыльёна рублёў.

Як бачым, гаспадаркі сёння пазбаўлены абаротных сродкаў. Акрамя таго, зараз паменшыліся дзяржаўныя цэнтралізаваныя капітальныя ўкладанні. Атрымліваецца, сённяшняя вёска можа працаваць толькі ў доўг.

### ...І ШТО ГУБЛЯЕМ

Аднак не ўсе нашы няшчасці адбываюцца толькі з-за дыспарытэту цэн, шмат чаго губляецца і ў «іншых месцах». Так, па ацэнках эканамістаў Мінсельгасхарча, з-за таго, што не дасягаецца планавая акупнасць выкарыстоўваемых мінеральных угнаенняў, страты штогод складаюць каля 700 мільёнаў рублёў, пры ўборцы ўраджаю — каля 3 трыльёнаў рублёў, пры перарасходаванні кармоў — 5,6. Такім чынам, невытворчыя страты вёскі, якіх можна пазбегнуць, атрымліваюцца на ўзроўні 10 трыльёнаў рублёў.

### НЯМА ЛЮДЗЕЙ

Адна з самых балючых праблем сёння на вёсцы — скарачэнне працоўных рэсурсаў. Не хапае людзей. Так, як заўважыў начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Клецкага райвыканкама Мікалай Гадун, нават у школах зараз значна менш вучняў, чым раней. Кадры проста збягаюць з вёскі...

### ЗНОШВАЕЦЦА ТЭХНІКА І ...ГЛЕБА

Знос тэхнікі ўвогуле па сістэме Мінсельгасхарча знаходзіцца дзесьці на ўзроўні 50 працэнтаў. У рэгіёнах бывае і менш: так, у Клецкім раёне гэта лічба складае каля 40 працэнтаў. Станоўчыя перспектывы пакуль умоўныя — парк практычна не аднаўляецца.

Больш таго, у шэрагу месцаў паніжаецца ўрадлівасць глебы — ужо вызначана больш за тысячу гаспадарак, дзе гэты паказчык ніжэй за сярэдні па Беларусі.

### ПАДТРЫМКА ДЗЯРЖАВЫ І ДБАЙНЫЯ ГАСПАДАРЫ

Вядома, што вёсцы не абысціся без падтрымкі дзяржавы — такі шлях, дарэчы, шырока практыкуецца і за мяжой. Прычым доля дапамогі розная — ад 30 працэнтаў кошту вырабляемай прадукцыі ў ЗША, да 78—80 — у Японіі і Швейцарыі. Аднак заўсёды дапамога бывае дзейснай толькі ў тым выпадку, калі яна носіць адрасны характар, праз ажыццяўленне важнейшых урадавых праграм. Па гэтым шляху крочыць і наша дзяржава. Сярод асноўных праграм — работа па развіццю комплексаў па вытворчасці свініны, якая размеркавана на перыяд да 2000 года. Летась пад рэалізацыю яе ў Нацбанку была адкрыта крэдытная лінія па папаўненню абаротных сродкаў у памеры 400 мільярдаў рублёў пад 6,5 працэнта гадавых. Асноўная мэта — забяспечыць належнае кармленне жывёлы. Вынікі не прымусілі сябе чакаць — аб'ём вытворчасці свініны павялічыўся на 16 працэнтаў, прыбыткі — у два з паловай разы, а па сярэднясутачных прыбаўленнях у вазе ўдалося выйсці на ўзровень 1990 года. Колькасць стратных комплексаў пры гэтым скарацілася ўдвая.

Гэты вопыт даказвае адно: грошы прыносяць карысць толькі ў тым выпадку, калі яны расходуюцца выключна на канкрэтныя справы. Па тым жа льну, калі сёлета былі нармальныя закупачныя цэны, удалося не толькі пакрыць страты на вытворчасць, а і пашырыць экспартныя магчымасці за кошт гэтай культуры.

Без падтрымкі дзяржавы вёска сёння не выжыве. Больш таго, менавіта на дзяржаўным узроўні неабходна забяспечыць эквівалентны абмен паміж сельскай гаспадаркай і прамысловасцю, а таксама наладзіць нармальнае рэгуляванне цэн на тую прадукцыю, якую выкарыстоўваюць гаспадаркі. Гэтыя высновы відавочныя.

Аднак не ўсе шляхі выйсця павінны атаясамлівацца выключна са словам «дай». У гэтым пераканаўся асабіста падчас наведвання гаспадарак Клецкага раёна, размоў з працоўнымі.

Вёсцы сёння катастрафічна не хапае дбайнага, клапатлівага гаспадара. Людзі могуць і жадаюць працаваць, але яны павінны атрымліваць за гэта належную кампенсацыю. Яскравы прыклад таму — агракамбінат «Клецкі». У гаспадарцы наладжана перапрацоўка садавіны. Вынік — 20 мільярдаў прыбытку штомесячна. За кошт гэтага «грашовага станка» магчыма развіваць і тое ж раслінаводства, і жывёлагадоўлю. «Жывая» справа. Кошт абеду ў сталоўцы... 10 тысяч рублёў. «Калі створым уласную краму, то і там цэны будуць па сабекошту, — пераканаыны старшыня агракамбіната «Клецкі» Алег Машэй. — Калі людзям можна будзе танна набываць прадукты, дык неабавязкова тады мець і ўласную сядзібу». Слухаючы гэтага чалавека, ведаеш, што «саду квітнець». Бо калі ёсць энергія і ініцыятыва, то прыходзіць і поспех. Менавіта ў гэтым, напэўна, і заключаецца сакрэт ператварэння волата на гліняных нагах (вобраз сённяшняй сельскай гаспадаркі) у сапраўднага волата.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**







**Нялёгка праходзіць уборка цукровых буракоў у калгасе «Радзіма Я. Коласа» што на Стаўбцоўшчыне, дзе плантацыі салодкіх караняў займаюць 100-гектарную плошчу. Працяглыя дажджы ператварылі некаторыя палеткі ў багну. Не абыходзіцца без нязменнай дапамогі паляводаў з усюдыходным гужавым транспартам, а кожны гектар тут дае па 400 цэнтнераў буракоў.**

**Фота Васіля ЗЯНЬКО.**

# «ДРЭВААПРАЦОЎКА-98»

**Пад гэтай назвай адбудзецца міжнародная выстаўка ў «Мінскэкспа».**

У чацвёрты раз вядучыя фірмы розных краін прыязджаюць у Мінск, каб прадэманстраваць свае найноўшыя дасягненні ў сусветнай вытворчасці машын і абсталявання для лясной індустрыі.

Выстаўка збярэ пад сваім дахам больш як 100 удзельнікаў з 13 краін: Германіі, Даніі, Італіі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі, Славеніі, Украіны, Францыі, Фінляндыі, Швецыі.

У Беларусі, як вядома, лесанарыхтоўчая, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровыя галіны эканомікі даволі развіты. Гэта абумоўлена багатым лесасыравінным яе патэнцыялам.

Дастатковыя запасы сыравіны абумоўліваюць даволі стабільнае становішча галіны, што стварае перадумовы для ёмістага, перспектыўнага рынку машын і абсталявання, якія выкарыстоўваюцца ў гэтай галіне, комплекснай глыбокай перапрацоўцы сыравіны і матэрыялаў.

**Леанід ТУГАРЫН.**

ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

# ТРАНСПАРТ СТАЛІЦЫ ПАГРАЖАЕ СПЫНЕННЕМ?

## Праблема цякучасці кадраў у аўтапарках Мінска паўстала вельмі востра

**У РЭДАКЦЫЮ ПРЫЙШЛО ПІСЬМО. Адкрытае. На імя мэра сталіцы Уладзіміра Ярмошына. Адпраўшчык — прафсаюзны камітэт МГП «Мінскпасажыраўтатранс» ад імя працоўнага калектыву прадпрыемства. Падпісана старшынёй прафсаюзнага камітэта Генадзем Герцыкам. Звярнуцца праз газету працоўныя вырашылі пасля некалькіх беспаспяховых спроб сустрэцца з кіраўніком мэрыі, а таму гэтае пісьмо «Звязда» друкуе практычна без скарачэнняў.**

«Паважаны Уладзімір Васільевіч!

Вы, напэўна, цудоўна ведаеце аб тым, што практычна 50 працэнтаў наземных пасажырскіх перавозак у горадзе прыпадаюць на нашы аўтобусныя паркі. Аўтобусныя маршруты часцяком з'яўляюцца адзіным сувязным звяном паміж новымі мікраёнамі і цэнтрам горада. Але ў сувязі з цяжкім становішчам, што склалася на прадпрыемстве, аб'ёмы перавозак пастаянна скарачаюцца.

Хацелася б адзначыць, што апошнім часам адбыліся і пазітыўныя зрухі ў некаторых пытаннях, што датычацца МГП «Мінскпасажыраўтатранс». У прыватнасці, за апошнія 2 гады мы атрымалі 150 машын маркі «МАЗ», што вельмі дапамагло нашым паркам палепшыць сваё тэхнічнае становішча. І трэба аддаць належнае нашым машынабудаўнікам, калі першыя машыны мелі шмат тэхнічных недапрацовак, то паступова якасць аўтобусаў «МАЗ» паляпшаецца.

На сённяшні дзень мы сутыкнуліся з іншай праблемай — цякучасцю кадраў. За шэсць месяцаў гэтага года з прадпрыемства звольніліся 492 вадзіцелі — практычна адзін аўтобусны парк. І колькасць жадаючых звольніцца пастаянна павялічваецца. Асноўнымі прычынамі звальнення з'яўляюцца (як пішуць вадзіцелі ў заявах) нізкі ўзровень заработнай платы і цяжкія ўмовы працы.

Асабліва непакоіць той факт, што звальняюцца вадзіцелі, якія прапрацавалі 10 і больш гадоў. Гэтыя абставіны вымушаюць нас займацца перападрыхтоўкай. Навучанне аднаго вадзіцеля абыходзіцца прадпрыемству ў 50 млн. рублёў. За шэсць месяцаў гэтага года было падрыхтавана 211 чалавек. Нескладана падлічыць, якія фінансавыя выдаткі нясе прадпрыемства. Але і пры ўсім гэтым не менш 25 працэнтаў адразу звальняюцца, не адпрацаваўшы тэрмін дагавора. Людзей нават не ўтрымлівае той факт, што вадзіцелі гарадскіх маршрутаў ідуць на пенсію ў 55 гадоў.

У свой час Мінгарвыканкамам было прынята мудрае рашэнне, што зарплата вадзіцеляў гарадскога транспарту павінна быць вышэй, чым зарплата высокакваліфікаваных рабочых на прадпрыемствах горада. У той час цякучасць кадраў скарацілася да мінімуму. І хаця гэтае рашэнне ніхто не адмяняў, на сённяшні дзень зарплата вадзіцеляў з улікам перапрацоўкі на лініі ніжэйшая, чым на буйных прамысловых прадпрыемствах сталіцы.

З-за нехваткі вадзіцеляў часта на маршруты не выходзіць 50—80 машын у змену. На сённяшні дзень у парках пададзена ад 20 да 30 заяў ад вадзіцеляў гарадскіх маршрутаў.

Мы звярталіся ў ВУТіС, сустракаліся з Вашым намеснікам, які курыруе гэтую галіну, але пакуль вырашэння пытанняў не знайшлі. Нам балюча бачыць, як развальваецца тое, што стваралася дзесяцігоддзямі. Таму мы, разумеючы Вашу занятасць, усётакі спадзяёмся на сустрэчу з Вамі, каб разам вырашыць нашы пытанні.»

**«Звязда» заўсёды імкнецца прадстаўляць праблемы з розных пунктаў гледжання. А таму газета прапанавала выказацца і «вінаватаму» боку. Субяседнік «Звязды» — намеснік вытворчага ўпраўлення транспарту і сувязі (ВУТіС) Мінскага гарвыканкама Ларыса Шарамецьева. Ларыса Рыгораўна расказала наступнае:**

— Прадпрыемствы гарадскога пасажырскага транспарту заключаюць дагаворы аб выкананні транспартных работ з ВУТіС Мінгарвыканкама. Згодна з заказам адбываецца і аплата за выкананы аб'ём работ. Крыніцамі выплат з'яўляюцца: выручка ад рэалізацыі білетнай прадукцыі і бюджэтныя асігнаванні. За 1998 год, згодна з планам, на гэтыя патрэбы неабходна больш за 3 трыльёны рублёў, у тым ліку 2 трыльёны 200 мільярдаў рублёў з гэтай сумы — бюджэтныя сродкі. На сённяшні дзень сума, выдзеленая дзяржавай, наблізілася да 2 трыльёнаў рублёў. Трэба сказаць, што фінансаванне прадпрыемстваў пасажырскага транспарту адбываецца такім чынам, каб забяспечваліся ў асноўным усе артыкулы затрат. Зазначу, што ў мінулыя гады было горш. Сённяшняе ж становішча дазваляе прадпрыемствам справіцца са сваёй праграмай, цалкам разлічвацца па абавязацельствах перад дзяржавай: плаціць падаткі, разлічвацца за электра- і цеплаэнергію, рабіць выплаты ў фонд сацыяльнай абароны, а таксама выплачваць заработную плату.

Коратка спынюся на артыкулах затрат. На фінансаванне капітальных укладанняў на 1998 год было прадугледжана выдзеліць 160,8 мільярда рублёў. Практычна ўсе сродкі ўжо асвоеныя. Гэта дазволіла паскорыць будоўлю аўтавакзала «Маскоўскі», увесці тралейбусную лінію ў мікраараёне Сухарава, рэканструяваць трамвайныя пуці агульнай працягласцю 5,34 кіламетра, пашырыць трамвайнае дэпо.

Сродкі ад транспартнага збору з мінулага года прадпрыемствы маюць права выкарыстоўваць на аднаўленне і набыццё рухомага саставу. Сёлета было заключана кантрактаў на суму 634 мільярды рублёў на набыццё 169 адзінак тэхнікі. На сённяшні дзень атрымана 113 аўтобусаў, 30 тралейбусаў.

Што датычыцца зарплаты працоўных, дык тэрміны яе выплаты вытрымліваюцца, за выключэннем некалькіх выпадкаў затрымкі. Аднак сёння зарплата вадзіцеляў не перавышае сярэдняй зарплаты на прамысловых прадпрыемствах. Нягледзячы на тое, што мы з'яўляемся гаспадарчаразліковым прадпрыемствам, адсутнасць вытворчасці рэальнай прадукцыі не дазваляе існаваць за ўласныя сродкі. Акупнасць сталічнага транспарту сёння — 32,4 працэнта, астатнія сродкі мы бяром з бюджэту. Праўда, не па сваёй віне. Мы ў стане падняць акупнасць гарадскога транспарту, але ў тым ліку і за кошт росту тарыфаў аплаты за праезд пасажырамі. На сённяшні дзень за праезд у аўтобусе пасажыр павінен быў бы заплаціць 10 тысяч, у тралейбусе, трамваі — на 1 тысячу меней, у метро — 6 тысяч 200 рублёў. Аднак новы тарыф, што заўсёды пераглядаецца толькі пасля павышэння мінімальнай зарплаты, спыніцца ў межах 3-4 тысяч рублёў за адну паездку. Вядома, гэта істотна не паўплывае на становішча ў галіне транспарту, у тым ліку і на змяненне зарплаты вадзіцеляў. Нягледзячы на прынятае Міністэрствам працы рашэнне аб увядзенні з 1 кастрычніка папраўчных каэфіцыентаў. Згодна з папярэднімі разлікамі, у кастрычніку зарплата работнікаў гарадскога транспарту вырасце на 22 працэнты. А гэта нязначнае павелічэнне. Таму вядуцца перамовы з Міністэрствам працы аб павышэнні заработнай платы з 1 кастрычніка. Прапрацоўваюцца некалькі варыянтаў, думаю, на адным з іх мы спынімся, бо зарплата працоўных транспарту павінна расці прапарцыянальна росту зарплаты ў прамысловасці. Тады павелічэнне зарплаты складзе ад 35 да 38 працэнтаў. У лічбах гэта будзе выглядаць наступным чынам. Калі у жніўні гэтага года заробак рамонтных рабочых склаў ад 3,7 да 5,3 мільёна рублёў, то ў кастрычніку будзе роўны ад 4,8 да 7 мільёнаў рублёў. Вадзіцелі наземнага транспарту атрымалі за жнівень ад 6,8 да 7,4 мільёна рублёў, за кастрычнік зарплата складзе ад 8,8 да 9,8 мільёна рублёў.

Нягледзячы на ўсе прымаемыя меры па павелічэнню зарплаты, верагодна, нам не ўдасца захаваць працоўны калектыў у сённяшнім саставе, бо прадугледжаны рост заробкаў, трэба прызнаць, неістотны і становішча застаецца складаным. Размеркаванне ж паміж работнікамі сумы, што затрачваецца на навучанне вадзіцеляў, таксама не дасць станоўчага выніку. Гэта не тыя сродкі, якія б дапамаглі выправіць становішча.

**Р. S. Газета не стане рабіць нейкія высновы, даваць каментарыі, пакідаючы права аналізу сітуацыі чытачу.**

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

«Парад тэхнікі» (в. Багданаў, Валожынскі раён).

# ІЛЬГОТЫ, ПРАДУГЛЕДЖАНЫЯ ПАДАТКОВЫМ ЗАКАНАДАЎСТВАМ ДЛЯ АСОБНЫХ КАТЭГОРЫЙ ГРАМАДЗЯН

**Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, што рэгулюе пытанні падаткаабкладання даходаў і іншых падаткаабкладаемых аб'ектаў, якія належаць грамадзянам, прадугледжаны шэраг ільгот, вызвалення ад платы падаткаў. Прычым падатковым заканадаўствам пры ўстанаўленні льгот улічана не толькі спецыфічнасць тых ці іншых аб'ектаў, у сувязі з чым яны не абкладаюцца адпаведнымі падаткамі, але і сацыяльнае становішча грамадзян-падаткаплацельшчыкаў, іх заслугі перад Айчынай і іншыя абставіны. Найбольш яўна прасочваецца залежнасць права на льготы ад узросту, дасягнутага грамадзянінам, па падатках у адносінах да аб'ектаў, якія абкладаюцца падаткам на нерухомасць і зямельным падаткам.**

Пажылыя людзі адначасова з ільготамі, якія прадастаўляюцца ім як грамадзянам, дасягнуўшым пенсійнага ўзросту, карыстаюцца таксама падатковымі паслабленнямі, прадугледжанымі ў цэлым для ўсіх падаткаплацельшчыкаў. Так, у артыкуле 3 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян» названы віды даходаў, якія падлягаюць абкладанню падаходным падаткам, прычым асобныя з іх незалежна ад сацыяльнага статусу грамадзяніна — атрымальніка гэтага даходу. Акрамя таго, пры ўмове, што пажылыя людзі адносяцца да адной з ніжэйпералічаных катэгорый грамадзян, даходы, якія яны атрымліваюць у межах 10 мінімальных заработных плат у месяц (120 мінімальных заработных плат у год) за выкананне працоўных абавязкаў, ад занятку прадпрымальніцкай дзейнасцю, за выкананне дагавораў грамадзянска-прававога характару і ў выглядзе аўтарскіх узнагароджанняў, не належаць абкладанню падаходным падаткам у адпаведнасці з артыкулам 4 вышэйназванага Закона:

*— Героі Сацыялістычнай працы, Героі Савецкага Саюза, поўныя кавалеры ордэна Славы, Працоўнай Славы;*

*— удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, грамадзяне, якія прымаюць удзел у баявых дзеяннях па абароне Айчыны ў саставе дзеючай арміі (флота), партызанскіх атрадаў і падполля, а таксама прымаўшыя ўдзел у лакальных войнах і ваенных канфліктах на тэрыторыі іншых краін у саставе фарміраванняў і ў якасці спецыялістаў і саветнікаў Узброеных сіл, Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР, Міністэрства ўнутраных спраў СССР, а таксама іншыя асобы, прыроўненыя па льготах да данай катэгорыі згодна з артыкулам 21 Закона «Аб ветэранах».*

Згодна з арт. 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах», да іншых асоб, на якіх распаўсюджваецца даная льгота, адносяцца:

*грамадзяне Рэспублікі Беларусь — былыя вязні фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і былыя непаўналетнія вязні іншых месцаў прымусовага зместу, створаных фашысцкай Германіяй і яе саюзнікамі ў перыяд другой сусветнай вайны;*

*інваліды з дзяцінства ў выніку ранення, кантузіі, калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны або з іх вынікамі;*

*сем'і загінуўшых ваеннаслужачых (бацькі і не ўступіўшыя ў паўторны шлюб жонкі, загінуўшых ваеннаслужачых, партызан і падпольшчыкаў незалежна ад віда атрымліваемай імі пенсіі, а таксама дзеці, якія сталі інвалідамі да паўналецця і атрымліваюць пенсію з выпадку страты карміцеля за загінуўшага ваеннаслужачага).*

Падставай для прадастаўлення грамадзяніну названай ільготы з'яўляецца «Пасведчанне ўдзельніка вайны»; «Пасведчанне інваліда Айчыннай вайны»; «Пасведчанне аб праве на льготы»; «Пасведчанне аб праве на льготы»; «Пасведчанне інваліда аб праве на льготы» або «Пасведчанне», у якім ёсць запіс, што прад'яўнік пасведчання мае права на льготы і перавагі, устаноўленыя для былых вязняў фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і былых непаўналетніх вязняў іншых месцаў прымусовага ўтрымання, створаных фашыстамі і іх саюзнікамі ў перыяд другой сусветнай вайны.

*— асобы, якія захварэлі і перанеслі прамянёвую хваробу, выкліканую вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;*

*— асобы, якія прымалі ўдзел у 1986—1987 гадах у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у межах зоны эвакуацыі або занятых у гэты перыяд на эксплуатацыі або іншых работах на ўказанай станцыі.*

Што ж датычыцца льгот па падатку на нерухомасць і зямельнаму падатку, то такія ўстаноўлены, адпаведна, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб плацяжах за зямлю» і Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на нерухомасць»:

— пенсіянеры па ўзросту вызваляюцца ад платы як зямельнага падатку, так і падатку на нерухомасць пры ўмове, што яны не атрымліваюць даходаў, якія абкладаюцца падатковымі органамі, і сумесна з імі не пражываюць або не лічацца, згодна з данымі пагаспадарчага ўліку або дамавых кніг, працаздольныя асобы. Аднак, калі пенсіянеры па ўзросту адносяцца да ніжэйназваных катэгорый грамадзян, то ад платы зямельнага падатку (але не падатку на нерухомасць) яны вызваляюцца незалежна ад якіх-небудзь умоў:

*1. Удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, у тым ліку інваліды з ліку былых партызан, або іншыя асобы з ліку ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі або калецтва, атрыманых пры абароне Радзімы або пры выкананні іншых абавязкаў ваеннай службы, або ў выніку захворвання, звязанага са знаходжаннем на фронце;*

*2. Асобы, якія, згодна з артыкулам 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах», прыраўноўваюцца да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны;*

*3. Асобы, якія перасяліліся ў сельскія населеныя пункты працанедастаючых тэрыторый у першыя тры гады пасля прыняцця рашэння аб прадастаўленні ім зямельнага ўчастка;*

*4. Асобы, якія перасяліліся ў сельскія населеныя пункты з зон адсялення тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання ў першыя тры гады пасля прыняцця рашэння аб прадастаўленні ім зямель;*

*5. Асобы, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і жывуць (працуюць) у зонах наступнага адсялення і з правам на адсяленне.*

Акрамя таго, незалежна ад умоў пенсіянеры па ўзросту вызваляюцца ад платы як зямельнага падатку, так і падатку на нерухомасць, калі аб'екты падаткаабкладання знаходзяцца не па месцы іх пастаяннага пражывання, напрыклад, зямельныя ўчасткі і размешчаныя на іх пабудовы ў садаводчых таварыствах, зямельныя ўчасткі ў гаражна-будаўнічых (гаражных) кааператывах, гаражных масівах, зямельныя ўчасткі і пабудовы, якія перайшлі ў парадку наследавання і дарэння.

Пры гэтым неабходна памятаць, што і з унясеннем змяненняў у Закон «Аб плацяжах за зямлю» з 1 красавіка 1996 года ўведзены абмежаванні па прымяненню льготы па зямельнаму падатку. Усе катэгорыі грамадзян, якія маюць ільготы, пералічаныя ў Законе «Аб плацяжах за зямлю» вызваляюцца ад платы зямельнага падатку толькі за зямельныя ўчасткі, прадастаўленыя для будаўніцтва і абслугоўвання індывідуальнага жылога дома, вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, дачнага будаўніцтва, садаводства і агародніцтва, і не вызваляюцца за ўчасткі, прадастаўленыя для будаўніцтва і ўстаноўкі гаражоў, сенакашэння і выпасу жывёлы і іншых мэтаў.

Цяпер знаходзіцца на разглядзе ў Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь праект закона, які прадугледжвае вызваленне ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны ад платы зямельнага падатку незалежна ад мэтавага назначэння прадастаўленага зямельнага ўчастка, а таксама вызваленне жыллёва-будаўнічых і гаражна-будаўнічых кааператываў ад платы падатку, які прыпадае на долю ўказанай катэгорыі грамадзян. Аднак з-за працяглай працэдуры прыняцця такога дакумента ў сёлетнім годзе падатковы камітэт выступіў ініцыятарам больш аператыўнага вырашэння разглядаемай праблемы шляхам прыняцця Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Цяпер па даручэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь праект такога Дэкрэта падрыхтаваны і знаходзіцца ў стадыі ўзгаднення. Трэба адзначыць, што гэтым дакументам прадугледжаны больш шырокі пералік ільгот, прадугледжаных для пенсіянераў па ўзросту, інвалідаў I і II груп і іншых непрацаздольных грамадзян.

Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на нерухомасць» для пенсіянераў па ўзросту прадугледжаны адначасова з указанымі вышэй і іншыя льготы па плаце падатку на нерухомасць. Так, незалежна ад якіх-небудзь умоў вызваляюцца ад платы гэтага падатку грамадзяне, якія пастаянна пражываюць у сельскай мясцовасці, а таксама сем'і, галавой якіх з'яўляюцца бацькі або муж і жонка ваеннаслужачых, работнікаў Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі, загінуўшых або прапаўшых без весткі пры выкананні службовых абавязкаў.

Падставай для прадастаўлення льгот па зямельнаму падатку і падатку на нерухомасць з'яўляецца «Пенсійнае пасведчанне» або «Пасведчанне інваліда», «Пасведчанне ўдзельніка вайны», «Пасведчанне інваліда Айчыннай вайны», «Пасведчанне інваліда аб праве на льготы», «Пасведчанне аб праве на льготы» і іншыя дакументы.

**Упраўленне метадалогіі налічэння падаткаў з фізічных асоб і іншых даходаў Дзяржаўнага падатковага камітэта.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 40 (158)




## ПРАДАЕЦЦА

- кватэра 4-пакаёвая, прыватызаваная, 2 зашклёныя лоджыі, ляпныя столі, 12.520 у.а.
Звяртацца: г. Барысаў, тэл. 3-56-45;
- палова новага цаглянага дома, гараж.
Тэл. у Вілейцы 5-41-53, увечары.
- Дом з г/пабудовамі ў в. Клідзяняты Смаргонскага раёна, побач лес, рака.
Тэл. у Докшыцкім раёне 2-86-93;
- «ВАЗ-2101» 1979 г.в. на хаду (на з/ч) — 700 у.а.
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 4-84-85;
- аўтамабіль «МАЗ» і прычэп.
Тэл. 241-19-42;
- ТВ-антэны з 1000-кратным сілкаваннем.
Тэл. у Мінску 224-69-42;
- электрарухавік 4АМ100L8СУ1 1,5 кВт., 675 аб/хв.
Тэл. у Мінску 260-46-06;
- паркет дубовы 80 кв. м.
Тэл. у г. Ляхавічы 2-21-80, Аляксандр;
- скрынкі драўляныя для яблыкаў.
Тэл. у Слуцку 4-48-98;
- сячкарня з электрапрыводам.
Тэл. у Мінску 271-22-67;
- карова, ацёл у снежні (узрост 7 гадоў) у в. Петрашэвічы д. 46 Дзяржынскага раёна.
Тэл. (8-216) 4-11-96;
- карова цельная (4 гады) у в. Мігдалавічы Дзяржынскага раёна.
Тэл. у Мінску 271-22-67;
- боты дзіцячыя зімовыя, памер 15; слоікі ад дзіцячага харчавання.
Тэл. 243-21-33;
- бульба ў г. Валожыне.
Тэл. 5-59-86, пасля 19;
- «Масквіч-2140» на з/ч, матацыкл «МТ-9» на з/ч.
Тэл. у Дзяржынску 6-58-78;
- дом з г/пабудовамі ў в. К. Слабада Барысаўскага раёна, 15 км ад горада.
Тэл. у Уздзенскім раёне 4-13-99;
- дом з г/пабудовамі ў в. Вайнілавічы Нясвіжскага раёна, (1 км ад Нясвіжа) участак 30 сотак, калодзеж, сад — цана па дамоўленасці.
Тэл. 4-55-57, 5-35-86. пасля 18.00;
- конь, узрост 6 гадоў, вялікі, у в. Пунішча Лагойскага раёна;
«ВАЗ-21063» 1986 г.в., прабег 80 тыс. км, газбензін, у добрым стане — цана па дамоўленасці.
Тэл. у Свіслачы (8-213) 2-25-43;
- кватэра 2-пакаёвая ў г. Валожыне.
Тэл. 5-41-78;
- агрэгат для адсмоктвання абразіўнага пылу і стружкі.
Тэл. у Маладзечне 6-97-80;
- «Форд-Сіера» 1985 г.в., бензін, растаможаны, цёмна-чырвоны.
Тэл. (8-01647) 7-32-88;
- «Опель-Амега» 1987 г.в., 2,3 л, дызель, серабрысты металік, растаможаны — 3800 у.а.
Тэл. (8-01512) 3-68-64;
- «Масквіч-4162» у добрым стане, капрамонт рухавіка, новая каробка — 450 у.а.
Тэл. у Смалявіцкім раёне 4-10-12;
- «Опель-Аскона» 1983 г.в. на з/ч.
Звяртацца: 222601, в. Вялікая Ліпа, д. 57, Ігар. Нясвіжскага раёна, Мінскай вобл.;
- «VW-Гольф» 1984 г.в., дызель, люк, жоўты, у выдатным стане — 2500 у.а.
Тэл. у Лагойскім раёне 5-62-78;
- «ВАЗ-21061» 1987 г.в., капрамонт у 1997 г., з/ч — 2000 у.а.
Тэл. у Любані 5-87-37, 5-94-58;
- «Аудзі-100» 1987 г.в., бензін, 2,2 л., люк, літыя дыскі, магнітола, цёмна-сіні, у выдатным стане — 4200 у.а.
Тэл. у г.п. Свір (8-297) 4-23-04;
- дом з г/пабудовамі ў в. Раманаўшчына Мядзельскага раёна.
Тэл. 3-82-63;
- рабочая кабыла, узрост 4 гады, авечка ў в. Пруднікі Мядзельскага раёна.
Тэл. 4-34-31;
- трактар «Т-40», «Т-25» або памяняю на л/аўтамабіль.
Тэл. у Бярэзінскім раёне (8-215) 5-61-97, 5-82-62;
- «МАЗ», «МТЗ-80» б/к.
Тэл. (8-017) 251-06-48;
- дом з г/пабудовамі, маецца прыродны газ — у в. Друцкаўшчызна Нясвіжскага раёна.
Тэл. у Баранавічах 7-65-50;
- дом з г/пабудовамі, маецца калодзеж, гараж у Стаўбцоўскім раёне — цана па дамоўленасці.
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 3-11-57;
- дом з г/пабудовамі, нядорага — у в. Сакаўшчына Валожынскага раёна.
Тэл. 4-54-82;
- «VW-Джэта-1» у выдатным стане, у Глыбоцкім раёне — 1000 у.а., торг.
Тэл.: 3-87-76, 3-48-42;
- «ВАЗ-21013» 1986 г.в., прабег 145 тыс. км, у добрым стане — 1600 у.а.
Тэл. у Докшыцкім раёне 2-49-00;
- «ВАЗ-21063» 1988 г.в. — 1700 у.а.; апарат даільны «AIP-1» — 100 у.а.
Тэл. у Нясвіжскім раёне 4-61-62;
- піяніна «Беларусь» чорнае, «ЗАЗ 966-В», запасныя рухавік і КПП і інш. з/ч.
Тэл. у Баранавічах 7-65-50;
- «Пежо-305» 1983 г.в., магнітола, фаркоп — 2300 у.а.
Тэл. у Нясвіжскім раёне 5-37-81, 5-41-03, пасля 18.00;
- дом з г/пабудовамі, 2 гаражы, участак 0,5 га, маецца тэлефон, летняя кухня.
Тэл. у Мінску 261-43-66;
- новы 2-цыліндравы рухавік УД-2М, баян, гармонік у добрым стане, танна.
Тэл. у Гомелі 48-70-81;
- трактар «Т-25».
Тэл. у Лепелі 4-94-55;
- задні мост і каробка перадач «ГАЗ-69».
Тэл. у Клецкім раёне 3-21-39;
- дом у г. Валожыне з г/пабудовамі, тэлефонам, мэбляй, участак 6 сотак, танна.
Тэл. у Слуцку 4-33-66;
- «ГАЗ-52» у выдатным стане, з дакументамі — 500 у.а.
Тэл. у Капыльскім раёне 3-67-08;
- «Опель-Аскона», 1,6 л., 1984 г.в., універсал, зялёны з Германіі, растаможаны — 2200 у.а.
Тэл. у Паставах 2-13-78;
- «Фіят-Крома» 1987 г.в., блакітны металік — 4200 у.а.
Звяртацца: г. Смалявічы, вул. Сацыялістычная, 29-316;
- фільтр ачысткі пітной вады «ЕКО-222», нядорага.
Тэл. у Мінску 258-61-64;
- «Аудзі-90» 1985 г.в., 2 л, бензін, цэнтр. замок, люк, у выдатным стане.
Тэл. у Валожыне 5-52-85;
- «Вольва-344», бензін, 1987 г.в., белы, у выдатным стане, КПП-аўтамат — 2600 у.а., у г. Бяроза.
Тэл. (8-01643) 2-55-00;
- «Вольва-345» на з/часткі.
Тэл. у Шаркаўшчынскім раёне 2-15-16;
- авечкі раманаўскай пароды, мнагаплодныя, для гадоўлі ў добрыя рукі.
Звяртацца: 222845, Пухавіцкі раён, в. Бахаравічы, Жыцько В.

## РОЗНАЕ

- Прадам або абмяняю на трактар ці л/аўтамабіль цаглянаблочны дом 8х11 у в. Васюкі Шаркаўшчынскага раёна. Маюцца 2 вялікія г/пабудовы, агарод 20 сотак. Тэл. у Шаркаўшчыне 2-10-34.
- Мяняю 1-пакаёвую кватэру ў Светлагорску на 1-пакаёвую ў Слуцку, Салігорску або прадам. Тэл. у Слуцкім раёне 9-03-16.
- Мяняю 1-пакаёвую кватэру, у дадатак садовы участак 6 сотак з цагляным домікам, у г. Новалукомлі на 1-пакаёвую кватэру ў г. Мінску або Жодзіне. Магчымы варыянты. Тэл. у Новалукомлі 3-67-91.
- Мяняю цагляны дом у в. Шкава Акцябрскага раёна з усімі выгодамі, (ёсць лазня, г/пабудовы) на 1-пакаёвую кватэру ў горадзе ці на л/аўтамабіль у добрым стане. Тэл. у Светлагорскім раёне 9-78-25, 9-78-35.
- Мяняю 2-пакаёвую кватэру з тэлефонам у Магілёве на Мінск ці прадам. Тэл. (8-01776) 5-83-15.
- Мяняю 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам у г. Мінску на 3-, 2-пакаёвую ў Таганрогу. Тэл. у Мінску 251-06-48.
- Куплю старыя фотаапараты, мікраскоп, авіягадзіннік, секундамер, вайсковую форму да 1958 г. Тэл. у Мінску 253-24-41.
- Куплю газеты «Двое» за 1995 г. — нумары ад 1 да 16, за 1996 г. — нумары 10, 11, 14. Тэл. у Баранавічах 4-10-40.

## Асабістае жыццё

**Аб. 863.** Пазнаёмлюся з сімпатычнай жанчынай да 35 гадоў для стварэння сям'і. Аб сабе: 38/170/76, разведзены, жыву ў сельскай мясцовасці Гродзенскай вобл., згодзен на пераезд.

**Аб. 864.** Мікалай, 27/170/60, пазнаёміцца з жанчынай ростам 160—165 см для стварэння сям'і. Жыву ў Драгічынскім раёне.

**Аб. 865.** Сімпатычная брунетка, 25/165, Стралец, чакае спадарожніка жыцця — надзейнага, уважлівага, без ш/звычак. За вашу павагу і дабрыню падарую вернасць і каханне. Судзімых прашу не турбаваць. Пражываю на Брэстчыне.

**Аб. 866.** Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам ва ўзросце да 35 гадоў. Аб сабе: 27 гадоў, прывабная брунетка з Віцебскай вобл.

**Аб. 867.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 25 гадоў. Аб сабе: Васілій, 22/167/67, без ш/звычак. Пажадана фота, якое вярну. Адкажу на ўсе лісты. (Віцебская вобл).

**Аб. 868.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з мужчынам да 50 гадоў, непітушчым, добразычлівым. Аб сабе: 42/160/60, без ш/звычак, двое сыноў — 17 і 14 гадоў. (Віцебская вобл).

**Аб. 869.** Пазнаёмлюся з добрым хлопцам без ш/звычак. Аб сабе: 23 гады, рост 178 см. Пісаць: 247710, г. Калінкавічы, да запатрабавання, пашпарт VIII-ЛЮ № 537793.

**Аб. 870.** Сімпатычны мужчына пазнаёміцца з жанчынай ва ўзросце да 42 гадоў, дзіця не перашкода. Пажадана з Капыля ці Капыльскага раёна. Аб сабе: 39/172/72. Астатняе пры перапісцы.

**Аб. 871.** Галіна, 47/162/70, Авен, жадаю знайсці гаспадара ў хату і добрага сумленнага мужа, пажадана ўдаўца ці адзінокага мужчыну, дзіця не перашкода. Матэрыяльна і жыллём забяспечаная, з Віцебскай вобл. Тэлефон у «Асабістым жыцці».

**Аб. 872.** Сімпатычны хлопец (25/190) пазнаёміцца з добрай дзяўчынай 18—22 гадоў, ростам не ніжэй 170 см, без ш/звычак. Жыву ў г. Смаргоні.

**Аб. 873.** Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і. Для жыцця ўсё ёсць, але нішто не радуе, калі няма побач надзейнага сябра, вернага таварыша, жаночага цяпла і ласкі. Крыху пра сябе: Анатоль, 38 гадоў, рост 179 см, прыемны з твару, без ш/звычак, гармонікам валодаю нядрэнна. Сам з Гродзеншчыны, а адрас у рэдакцыі.

**P. S. Не забывайцеся, для атрымання адраса абанента высылайце канверт са сваім адрасам.**

## ВІНШАВАННІ

Дарагога, любага татачку, мужа, дзядулю **Васіля Арсеньевіча СТРАЛЕНЮ** віншуем з днём нараджэння.

*Хай будзе век шчаслівы,*
*ад нас усіх паклон.*
*Здароўя, табе, сілы,*
*блакітных зычым дзён.*

***Дзеці, родныя,*** *г. Слуцк.*

З днём нараджэння віншую нявестку з Мінска **Марыну Пятроўну СЫРАВАТКАВУ.** Жадаю здароўя, шчасця, дабрабыту.

***Свякроў,*** *в. Цяглевічы.*

З 10-годдзем сумеснага жыцця віншуем **Ірыну і Сяргея КІПЦЭВІЧАЎ** з Лунінца. Шчасця, здароўя, уцехі адзін ад аднаго.

***Родныя, сябры.***

Віншуем з юбілейным днём нараджэння дарагую мамачку **Ірыну Вікенцьеўну ПЛЁСКА** з в. Папоўцы. Жадаем здароўя, шчасця і радасці, бадзёрасці і дабрабыту і каб яшчэ доўга-доўга сагравала нас тваё цяпло.

***Дзеці, унукі, муж.***

Шчыра віншуем **Анастасію Рыгораўну КАЛЮТЧЫК** з в. Бездзеж Драгічынскага раёна з 50-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця.

***Муж, дочкі, зяць і ўсе родныя.***

Віншуем з 20-годдзем **Наталлю Сяргееўну ЗАБАЛОЦКУЮ** з в. Несцераўшчына Докшыцкага раёна. Жадаем здароўя, поспехаў у працы, шчасця і радасці ў жыцці!

***Бацькі, родныя.***

Віншуем **Вячаслава Паўлавіча НІКАЛАЕВА** з 70-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.

***Дзеці, унукі,*** *г. Мядзел.*

Віншуем паважанага дырэктара Пратасаўскай школы **Людмілу Пятроўну ГОЛУБ** з 50-годдзем.

*«Пусть морщины вас не старят,*
*Пусть не трогает беда,*
*Пусть природа вам подарит*
*Жизни долгие года».*

***Настаўнікі Пратасаўскай школы.***

Сардэчна віншуем з 40-годдзем **Тамару Іосіфаўну АЛЯШКЕВІЧ** з Фаніпаля. Жадаем здароўя, вялікай сямейнай любові і дабрабыту.

***Муж, дзеці і бацькі*** *з Рубяжэвіч.*

Віншую любага сына **Івана Васільевіча МІХАЙЛОЎСКАГА** з Мінска з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця ў асабістым жыцці і сямейнага дабрабыту.

***Мама,*** *в. Такаўшчына.*

## Віншаванні

Віншуем **Ядвігу і Валерыя РАЧКОЎСКІХ** з 20-годдзем сумеснага жыцця. Шчасця, здароўя, усмешак Вам, дарагія. Дажыць да залатога вяселля.

***Люцыя, Яніна, Сільчанкі і Флярко.***

Сардэчна віншуем з днём нараджэння **РАЧКОЎСКУЮ Галіну Уладзіміраўну** з Мінска. Жадаем моцнага здароўя, жыццёвай упэўненасці, удачы.

***Хурсікі.***



# ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

*САЮЗ БЕЛАРУСІ І РАСІІ*

# ПАД ЧОРНЫМ КРЫЛОМ БЯДЫ

***Як выконваецца міждзяржаўная праграма ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы?***

Чарнобыльскі прысак на нашай зямлі дагэтуль не астывае. Чарнобыльскі боль, які дванаццаць гадоў таму сцяў мільёны чалавечых сэрцаў, не адпускае. Міжнародная навуковая канферэнцыя па праблемах Чарнобыля, што адбылася ў Мінску ў красавіку гэтага года, пераканаўча пацвердзіла: чарнобыльскі атам не ўтаймоўваецца, працягвае сваё атрутнае, разбуральнае ўздзеянне на прыроду і чалавека.

Горкі паслячарнобыльскі лёс Беларусі і ў тым, што спадзявацца на поўную кампенсацыю панесеных страт (прыкладна 235 мільярдаў долараў ЗША) не выпадае. Істотнай дапамогі ад міжнароднага супольніцтва беларуская дзяржава таксама не атрымала. Гуманітарныя пасылкі, якія паступаюць у пацярпелыя раёны з розных краін свету, і нават бясплатнае аздараўленне за мяжой тысяч дзяцей не здымаюць вастрыні чарнобыльскай праблемы.

Штогод на ліквідацыю наступстваў аварыі з нацыянальнага бюджэту выдаткоўваюцца велізарныя сродкі. Распрацавана і рэалізуецца спецыяльная дзяржаўная праграма. Але рэсурсы і магчымасці краіны ўсё ж абмежаваныя. Таму да гэтага часу не ўдалося вырашыць шэраг важных задач па мінімізацыі вынікаў катастрофы.

Пасля распаду СССР пэўную дапамогу Беларусь атрымлівала ад Расіі. У адпаведнасці з міжурадавымі пагадненнямі ў 1992—1995 гадах прадугледжвалася выдзеліць для Рэспублікі Беларусь з фэдэральнага бюджэту Расійскай Федэрацыі 30 мільярдаў рублёў. Фактычна было выдаткавана 13,6 мільярда рублёў, або 45 працэнтаў ад запланаванага. У 1996 годзе, калі пачаўся інтэграцыйны працэс дзвюх дзяржаў, вырашэнне чарнобыльскай праблемы было вылучана ў лік першачарговых задач супольнага развіцця. Чарнобыльскае пытанне разгледзеў Вышэйшы Савет. Згодна з яго рашэннямі аб сумесных дзеяннях па мінімізацыі наступстваў катастрофы (ад 22.06.96 г.) Расія абавязалася накіраваць у Рэспубліку Беларусь 8 мільярдаў рублёў. За два гады атрымана каля 7 мільярдаў рублёў. Гэтыя сродкі ўкладзены ў будаўніцтва Гродзенскага завода медыцынскіх прэпаратаў і аснашчэнне двух дзіцячых аздараўленчых цэнтраў.

Маштабнасць чарнобыльскай трагедыі і аналагічнасць задач, якія вырашаюць абедзве краіны, патрабавалі больш грунтоўнага падыходу. Таму год назад зацікаўленыя міністэрствы Беларусі і Расіі распрацавалі праект спецыяльнай праграмы сумеснай дзейнасці на 1998—2000 гады. Падрыхтаваны праект быў падтрыманы на сесіі Парламенцкага Сходу, а канчатковае рашэнне аб зацвярджэнні праграмы прынята Выканаўчым Камітэтам Саюза Беларусі і Расіі 10 чэрвеня 1998 года.

Якія ж мэты праграмы? Папершае, сканцэнтраваць матэрыяльныя, фінансавыя і інтэлектуальныя рэсурсы дзвюх дзяржаў для вырашэння найбольш прынцыповых постчарнобыльскіх праблем практычнага і навуковага характару. Па-другое, стварыць уніфікаваную прававую базу для ажыццяўлення мерапрыемстваў па медыцынскай, радыяцыйнай і сацыяльнай абароне грамадзян Беларусі і Расіі, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Рэалізацыя праграмы ў інтарэсах абедзвюх краін дазволіць сфарміраваць адзіныя банкі даных аб асноўных медыцынскіх наступствах чарнобыльскай катастрофы, стварыць доўгатэрміновую сістэму медыцынскай службы па аказанню лячэбна-рэабілітацыйнай дапамогі пацярпеламу насельніцтву, ажыццявіць уніфікацыю заканадаўства па сацыяльнай абароне чарнобыльцаў. У Беларусі плануецца завяршыць будаўніцтва Гродзенскага завода медыцынскіх прэпаратаў і спецыялізаванага дыспансера ў Гомелі. На тэрыторыі Расіі ў рамках праграмы капітальныя ўкладанні накіроўваюцца на два аб'екты — Усерасійскі цэнтр экалагічнай і радыяцыйнай медыцыны ў Санкт-Пецярбургу і клінічны корпус Медыцынскага радыялагічнага цэнтра Расійскай акадэміі медыцынскіх навук у г. Обнінску. Прадугледжана вырашэнне і іншых надзённых задач.

Вызначаны дзяржаўныя заказчыкі сумеснай праграмы. У Расіі гэтую функцыю выконвае Міністэрства па справах грамадзянскай абароны, надзвычайных сітуацыях і ліквідацыі наступстваў стыхійных бедстваў, у Беларусі — Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Улічваючы неабходнасць цеснага ўзаемадзеяння ў рэалізацыі праграмы, названыя міністэрствы ўтварылі сумесную калегію. Да выканання праграмы з абодвух бакоў прыцягнуты аўтарытэтныя арганізацыі і ўстановы.

Каб ажыццявіць задуманае, патрэбны вялікія сродкі. Асноўнай крыніцай фінансавання запланаваных мерапрыемстваў будзе саюзны бюджэт. Агульны кошт праграмы — 333 мільёны расійскіх рублёў. Доля адлічэнняў Расіі складае 65 працэнтаў, Беларусі — 35 працэнтаў.

Рэалізацыя праграмы пачалася. Сёлета з бюджэту Саюза на гэта накіроўваецца 50 мільёнаў рублёў. У агульную скарбонку Беларусь кладзе толькі пятую частку пазначанай сумы, а возьме з яе больш за палову. Звыш 20 мільёнаў рублёў беларускія выканаўцы праграмы ўжо атрымалі. Выдзеленыя фінансавыя сродкі скарыстаны на тэхнічнае аснашчэнне Гродзенскага завода медыцынскіх прэпаратаў, правядзенне навуковых даследаванняў, падрыхтоўку праектаў нарматыўна-прававых актаў, адзіных для Беларусі і Расіі, па спецыяльнай абароне чарнобыльцаў.

Фінансавы крызіс у Расіі, які адмоўна ўплывае і на фарміраванне саюзнага бюджэту, стрымлівае захады па рэалізацыі расійскай часткі праграмы. З-за недахвату грашовых сродкаў тэрміны выканання работ адкладваюцца. Гэта не на карысць справе. А калі ўлічыць, што ў наступныя два гады аб'ёмы фінансавання чарнобыльскай праграмы павінны значна павялічыцца, то яе лёс не можа не выклікаць пэўнай занепакоенасці.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці крызіснай сітуацыі, праграма па Чарнобылю мусіць быць прафінансавана і выканана ў поўным аб'ёме. Няма сумненняў, што Беларусь свае абавязацельствы выканае. Ёсць спадзеў, што слова саюзніка стрымае і Расія.

**Іван КАРЭНДА,**
**начальнік Галоўнага сацыяльнага ўпраўлення апарату Выканаўчага Камітэта Саюза Беларусі І Расіі.**
*г. Масква.*

# ЛДПБ ШУКАЕ ДОБРААХВОТНІКАЎ ПАВАЯВАЦЬ У СЕРБІІ

***Аднак гэтая дзейнасць партыі можа быць прызнана незаконнай***

9 кастрычніка са штаб-кватэры Ліберальна-дэмакратычнай партыі былі атрыманы паведамленні, што яна пачынае збіраць валанцёраў на магчымую вайну Сербіі з НАТО. Сітуацыя ў Сербіі сапраўды абвастраецца, і беларускі прэзідэнт выказаўся за тое, што наша краіна падтрымае Югаславію ўсім — акрамя салдат, якія, паводле Канстытуцыі, не маюць права ваяваць за межамі нашай дзяржавы. Спачатку падалося, што гэтыя заявы ЛДПБ усяго толькі эфектны партыйны трук, каб яшчэ раз прыцягнуць да сябе ўвагу. Аднак праз некалькі дзён у партыі зазначылі, што іх намеры вельмі нават сур'ёзныя. У прыватнасці, намеснік старшыні ЛДПБ Алег Маркевіч паведаміў агенцтву БелаПАН, што за некалькі дзён партыя ўжо адшукала ў якасці добраахвотнікаў каля 200 грамадзян Беларусі і Расіі, якія жывуць пераважна ў Віцебскай і Брэсцкай абласцях — гэта былыя ваенныя спецыялісты з вопытам баявых дзеянняў.

Супрацоўнік аргаддзела Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Віктар Калач таксама паведаміў, што з 9 кастрычніка ў іх партыі дзейнічае спецыяльны штаб па запісу добраахвотнікаў, якія гатовы ўдзельнічаць у баявых дзеяннях у Югаславіі ў выпадку нападу на яе войскаў НАТО. У штаб гэты ўваходзіць некалькі адстаўных афіцэраў на чале з Аляксандрам Кутузавым, і яны вядуць адбор жадаючых з ліку тых грамадзян Беларусі, якія маюць вопыт баявых дзеянняў і ўжо закончылі сваю вайсковую службу. У першую чаргу тут цікавяцца спецыялістамі проціпаветранай абароны, ваенна-паветраных сіл, а таксама сухапутных войскаў. Спецыялістамі з медыцынска-санітарных часцей пакуль не цікавяцца...

Як паведаміў Віктар Калач, ніякай санкцыі з самой Югаславіі на гэтыя дзеянні ягонай партыі не было. Самі сербы іх аб дапамозе не прасілі.

— Мы проста выказалі сваю ініцыятыву, і калі наша дапамога будзе неабходна, то мы будзем ужо афіцыйна запрошваць Бялград. Пакуль што мы рыхтуем людзей. Пасля 9 кастрычніка ў нас ужо былі людзі, якія жадалі запісацца добраахвотнікамі. Мы з імі пагаварылі, узялі адрасы і «ў выпадку чаго» звернемся да іх асабіста. Матывы ў іх добрыя, толькі жаданне дапамагчы сербам,— зазначыў В. Калач.

Ён таксама паведаміў, што запісвацца прыходзілі не толькі прадстаўнікі ЛДПБ, але і людзі, якія зусім не цікавяцца палітыкай.

Віктар Калач не змог, аднак, адназначна сказаць, ці гатовы гэтыя людзі загінуць у барацьбе з натаўскімі сіламі, — пытанне гэта занадта тонкае і далікатнае, валанцёры ж, зразумела, жадаюць не загінуць... З другога боку, ЛДПБ пакуль і не гарантуе, што яны змогуць паўдзельнічаць у рэальных баявых дзеяннях, усё будзе залежаць ад таго, як будзе развівацца сітуацыя.

Ніякай размовы пра магчымае грашовае ўзнагароджанне за ўдзел у баях няма, так што параўноўваць гэтых людзей з наёмнікамі нельга. Аднак, з другога боку, паўстае пытанне — ці можа партыя, грамадская арганізацыя ці якая-небудзь прыватная асоба, нават пры вельмі добрых намерах, весці вярбоўку добраахвотнікаў на вайну ў чужой краіне? Ці можа партыя збіраць адрасы людзей, якія ўмеюць і жадаюць ваяваць? Нават калі ніхто з сагітаваных у Сербію не паедзе, калі там, дасць Бог, не дойдзе да баявых дзеянняў, то ў ЛДПБ з'явіцца такі вось незвычайны «актыў»... І сёння будзе весці набор добраахвотнікаў ЛДПБ, заўтра — БНФ, паслязаўтра — «Славянскі сабор» ці хто іншы. Чым такое можа скончыцца, цяжка і ўявіць.

Намеснік начальніка ўпраўлення грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі Уладзімір Мацвееў зазначыў карэспандэнту «Звязды», што ніякая партыя ці грамадская арганізацыя не можа выходзіць за рамкі мэтаў, задач і метадаў дзейнасці, якія запісаны ў яе статуце.

— Не дай Божа такога, — так адрэагаваў У. Мацвееў на паведамленне аб тым, што ЛДПБ набірае добраахвотнікаў на магчымую вайну. — Такога мы ніколі ніякай партыі ці грамадскай арганізацыі ў статуце не рэгістравалі. За гэтым мы вельмі дакладна сачылі і, да прыкладу, не зарэгістравалі ніводнае казацкае ці якое-небудзь іншае ваенізаванае фарміраванне. Гэтым ЛДПБ займацца не мае права. Гэта парушэнне закона аб партыях і на гэта павінна быць адпаведнае рэагаванне Генеральнага пракурора, які, згодна з законам, «вядзе нагляд за адпаведнасцю дзейнасці палітычных партый Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь».

У. Мацвееў лічыць, што ЛДПБ такім чынам парушае Закон «Аб партыях у Рэспубліцы Беларусь».

Ва ўпраўленні агульнага нагляду Пракуратуры Беларусі паведамілі, што пакуль тут не валодаюць інфармацыяй аб падобнай дзейнасці ЛДПБ, што тут трэба яшчэ разабрацца, вывучыць, якія канкрэтныя дзеянні адбываюцца, якія заклікі і г.д. І ўжо потым даваць юрыдычную ацэнку. З ходу рабіць ацэнкі тут адмовіліся. Спяшацца сапраўды не трэба, галоўнае ж — не спазніцца.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# ЮГАСЛАВЫ ЎДЗЯЧНЫЯ БЕЛАРУСКАМУ ПРЭЗІДЭНТУ ЗА ПАДТРЫМКУ

**У адрас прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі і ўсяго беларускага народа працягваюць паступаць пісьмы і тэлеграмы ад грамадзян і грамадскіх арганізацый Югаславіі са словамі падзякі за падтрымку. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе Міністэрства замежных спраў Беларусі.**

У прыватнасці, у пісьме кіраўніка Саюза ваенных інвалідаў Сербіі Радзіша Мілівоевіча выказана вялікая падзяка за дапамогу, якую Беларусь гатова аказаць Саюзнай Рэспубліцы Югаславіі ў складаны для гэтай краіны перыяд. Югаслаўскія ветэраны звяртаюцца да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай зрабіць усё магчымае, каб тое, што адбываецца ў Сербіі, нідзе і ніколі не паўтарылася.

Сардэчную падзяку ад імя ўсіх косаўскіх сербаў перадаў прэзідэнту Беларусі і дырэктар Інстытута раслінаводства горада Печ, размешчанага на тэрыторыі Косава.

**БЕЛТА.**

# ЦІ МОГУЦЬ НАТАЎСКІЯ БОМБЫ СТАЦЬ ГАРАНТАМ МІРУ НА БАЛКАНАХ?

У самой штаб-кватэры НАТО ў Бруселі на гэтае пытанне даюць станоўчы адказ: «Так. Калі вычарпаны ўсе палітычныя сродкі ціску на бок, які, маўляў, кінуў выклік міжнароднаму супольніцтву, вядзе генацыд супраць этнічнай меншасці сваёй краіны». Як прыклад яны прыводзяць у адказ Боснію, дзе ўдалося «прымусіць да міру сілай», а таксама вайсковую аперацыю ЗША «Бура ў пустыні» супраць Ірака. «Гэта класічныя жандармскія аперацыі, якія паказваюць усяму свету, што агрэсар беспакараным не застанецца», — гавораць чыноўнікі НАТО, з якімі нам давялося гутарыць непасрэдна ў штаб-кватэры НАТО ў Бруселі, а таксама ў яго генеральным ваенным штабе ў Монсе.

Рашэнне Паўночнаатлантычнага альянсу аб бамбардзіроўках ваенных аб'ектаў і войскаў Саюзнай Югаславіі падаецца сродкамі масавай інфармацыі і самымі высокімі службовымі асобамі краін—членаў НАТО як амаль канчатковае. Зараз размова можа ісці толькі аб тэрмінах нанясення бомбавага ўдару. Але цікава вось што. Аргументацыя прыняцця такога адказнага рашэння вельмі і вельмі слабая. Члены беларускай дэлегацыі, якая днямі наведалі Брусель, неаднаразова задавалі гаспадарам пытанне: на аснове якіх канкрэтных даных дакументаў прымалася гэтае рашэнне? А ў адказ чулі: на аснове сведчанняў сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасці, перадач Сі-Эн-Эн. Ім гаварылі: «Прабачце, але гэтага абсалютна недастаткова для такога лёсавызначальнага для народаў Еўропы і свету рашэння». І сапраўды: складваецца ўражанне, што для радавога абывацеля ўзровень аргументацыі можа быць абмежаваны публікацыямі СМІ, але ёсць і нейкі іншы ўзровень, прызначаны для тых, хто прымае рашэнне. Можа, я памыляюся, але мне здаецца, што з намі, як і з грамадскасцю многіх краін, гулялі ў кошкі-мышкі. Бо паралелі, якія напрошваюцца, патрабуюць нейкага тлумачэння.

Скажам, ваенныя дзеянні Расіі ў Чачні. Колькасць ахвяр там, маштаб баявых дзеянняў, прымяненне авіяцыі, артылерыі, іншых узбраенняў непараўнальныя з тым, што робіцца ў Косава. Але ў НАТО нават не абмяркоўвалі магчымасць нанясення бомбавых удараў па ўдзельніках канфлікту. Чаму? Нам казалі: «Канфлікт у Расіі — унутраная справа яе і Чачні. Гэты канфлікт не пагражаў бяспецы самых краін—членаў НАТО, бо Расія і Чачня далёка ад нас».

Добра. Возьмем другі прыклад. Член НАТО — Турцыя, у якой ужо шмат гадоў не сціхае канфлікт з курдамі, таксама этнічнай меншасцю. Турцыя ганяе курдаў з удзелам войскаў не толькі на сваёй тэрыторыі, але і на тэрыторыі іншых краін, таго ж Ірака. Тут НАТО ніколі бамбіць не збіраецца, бо гэта таксама «ўнутраная справа самой Турцыі». І такіх прыкладаў нават з краінамі—членамі НАТО можна прывесці шмат. Тут і Англія з Ольстэрам, і Іспанія з Каталоніяй, і супярэчнасці Турцыі і Грэцыі (члены НАТО) адносна ўрэгулявання кіпрскай праблемы і шмат іншых. А можа, адказ трэба шукаць у іншым? У сітуацыі з Расіяй рэч зразумелая: паколькі апошняя валодае ядзернай зброяй, умяшанне ў яе справы, як кажуць, «для НАТО чревато», а яны не такія дурні, каб рызыкаваць сваім дабрабытам. А з Турцыяй таксама зразумела: паколькі любое рашэнне НАТО прымаецца толькі на аснове кансенсусу, г. зн. са згоды абсалютна ўсіх яго членаў, то нейкія санкцыі апрыоры немагчымыя. Карацей, «свой свая не пабівахам». Вельмі хацелася б памыліцца, але іншы раз здаецца, што вучыць нас «міжнародным стандартам паводзінаў» будуць на прыкладзе малых і безабаронных народаў. Дыскутаваць на гэтую тэму можна і трэба шмат, бо кроў, чыя б яна ні была і дзеля якіх мэтаў ні пралівалася, не можа стаць вадою.

Дэлегацыя беларускіх палітыкаў і журналістаў, якая наведала НАТО, была апошняй, як нам сказалі, у гэтым годзе. Усе астатнія адменены ў сувязі з падзеямі ў Югаславіі. Размовы і дыскусіі былі цікавымі, закраналі шэраг актуальных праблем. Напрыклад, распрацоўка новай стратэгіі НАТО, удзел Беларусі ў праграме «Партнёрства дзеля міру», адносіны Расіі і НАТО і іншыя, але гэтыя радкі пішуцца па гарачых слядах падзей, звязаных з драматычнай сітуацыяй у Косава і з тым, што я пабачыў і пачуў непасрэдна ў Бруселі. Маё асабістае адчуванне: палітычныя сродкі ўрэгулявання канфлікту выкарыстаны далёка не поўнасцю. І шкада, калі заўтрашнія бомбы стануць апошнім аргументам палітыкаў і ваенных у вырашэнні канфліктнай сітуацыі. Бо невядома, што будзе паслязаўтра. Мір ці новыя ахвяры і новая кроў? Дзеля міру ці дзеля «прыкладу» для ўсіх нас?

**Міхаіл МІХАЕВІЧ.**
*Брусель — Мінск.*

*ПОГЛЯД*

# БЕЛАРУСКІЯ ІНТАРЭСЫ НА БАЛКАНАХ

***Што прымусіла афіцыйны Мінск заняць актыўную пазіцыю ў вырашэнні косаўскай праблемы***

Беларусь спрабуе іграць актыўную ролю ў вырашэнні балканскай праблемы. Шэраг рэзкіх выказванняў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі адносна планаў НАТО і ваеннай дапамогі Югаславіі выклікалі прыкметны розгалас у беларускім грамадстве і не засталіся незаўважанымі ў свеце.

Наўрад ці можна сцвярджаць, што значная колькасць грамадзян Беларусі вельмі заклапочана косаўскім крызісам і настойвае на неадкладнай дапамозе сербам у іх процістаянні з Захадам і албанцамі. Беларусь аддзелена ад мяцежнай югаслаўскай правінцыі дзвюма тысячамі кіламетраў і паўтузінам дзяржаўных межаў. Пра існаванне Косава і пра сепаратысцкія настроі югаслаўскіх албанцаў большасць беларусаў даведаліся ў лепшым выпадку некалькі месяцаў таму, калі гэта тэма стала гучаць на расійскім тэлебачанні.

Намер Мінска аказаць ваенную дапамогу Бялграду і тым самым апынуцца ў шэрагу актыўных удзельнікаў небяспечнага ўзброенага канфлікту нараджае нямала пытанняў. Галоўнае з іх: якія геапалітычныя інтарэсы прымушаюць нашу краіну ўмешвацца ў балканскі крызіс; якія знешнепалітычныя і эканамічныя наступствы гэта можа мець для Беларусі.

Адказ на гэтыя пытанні не можа быць вычарпаны аргументам славянскай і праваслаўнай еднасці. У славянскім свеце сёння, як ніколі, няма адзінства. Славянская і праваслаўная Балгарыя, ля межаў якой і грыміць сербска-албанская вайна, выказала гатоўнасць прадаставіць сваю ваенную інфраструктуру сілам НАТО. Славянская і праваслаўная Македонія сама апасаецца сепаратызму ўласных албанцаў і стараецца захоўваць нейтралітэт. Іншыя балканскія славяне — найперш харваты — дагэтуль бачаць у сербах ворагаў і адназначна становяцца на бок НАТО.

Для заходніх славян — палякаў, чэхаў і славакаў — балканскі крызіс не ўяўляе вялікай цікавасці, бо не закранае іх інтарэсаў. Гэтыя краіны ўжо заявілі, што не збіраюцца ўдзельнічаць у вырашэнні канфлікту, хоць, як патэнцыяльныя члены НАТО, гатовы прадаставіць сваю паветраную прастору для патрэб натаўскай авіяцыі.

Адзіны сур'ёзны саюзнік Бялграда — Масква. Расія не можа змірыцца з тым, што еўрапейскі канфлікт вырашаецца без яе ўдзелу, што ігнаруецца яе пазіцыя. Яна па-ранейшаму прэтэндуе на статус вялікай дзяржавы і гатова заплаціць за гэты статус высокую цану. Хоць магчымасці Расіі паўплываць на балканскі крызіс пасля ваеннага паражэння ў Чачні выглядаюць вельмі сціпла. І наўрад ці выпадкова, што кіраўніцтва НАТО дэманстратыўна заявіла пра намер прымаць рашэнне па Косава без уліку пазіцыі Масквы.

У сённяшняй сітуацыі Беларусь лагічным чынам знаходзіцца ў рэчышчы расійскай знешняй палітыкі. Гэтага вымагаюць не толькі саюзніцкія абавязкі, але і напружаныя адносіны з Захадам. Калі Масква яшчэ толькі рызыкуе пасварыцца з НАТО і пагоршыць стасункі з ЗША і Заходняй Еўропай, то Беларусі ў гэтым сэнсе губляць ужо няма чаго.

Зразумела, значных эканамічных (а тым больш ваенных) інтарэсаў у Беларусі на Балканах няма. Тавараабарот з той жа Югаславіяй вымяраецца ўсяго некалькімі дзесяткамі мільёнаў долараў. Куды важней тое, што Бялград у вачах Захаду выглядае прыкладна гэтак жа, як і Мінск. Да яго прад'яўляюць шмат прэтэнзій у галіне дэмакратыі, правоў чалавека, абвінавачваюць у парушэнні міжнароднага права. І апасенні прэзідэнта Лукашэнкі наконт таго, што ўслед за Югаславіяй Захад можа паспрабаваць аказаць падобны націск і на Беларусь — выглядаюць цалкам праўдападобна. У гэтым кантэксце рэзкая рэакцыя Аляксандра Лукашэнкі і яго гатоўнасць аказаць Бялграду ўсякую дапамогу становяцца зусім зразумелымі і вытлумачальнымі.

Хоць заявы пра такую дапамогу, хутчэй за ўсё, маюць, на мой погляд, не практычны характар. Беларусь не мае магчымасці накіраваць у Югаславію тое ўзбраенне, якое найперш можа спатрэбіцца сербскай арміі ў магчымай вайне з сіламі НАТО — самалёты, процівракетныя і ракетныя комплексы. Гэтыя віды зброі наша краіна не выпускае, а на знешніх рынках яны каштуюць вельмі дорага. Атрымаць іх Бялград можа толькі з Расіі.

Канчатковае рашэнне кіраўніцтва НАТО адносна ўзброенай экспедыцыі ў Косава стане вядома у бліжэйшыя некалькі дзён — магчыма, ужо сёння, 13 кастрычніка. Хоць ужо цяпер зразумела, што верагоднасць буйнога канфлікту невялікая. Захад пазбягае тых войнаў, у якіх ён можа панесці істотныя страты. А маленькай і хуткай пераможнай вайны ў Косава, хутчэй за ўсё, не атрымалася б.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ЛЁСЫ*

# БАГАТЫЯ

Сям'ю Марыны ў вёсцы лічаць багатай. А як жа ж? Муж — мяснік, яна — фельчарка на ФАПе, адзіная спецыялістка з медыцынскімі ведамі. А веды, на думку вяскоўцаў, аплачваюцца добра. Ва ўсякім разе, яны думаюць, што так павінна быць — значыць ёсць. Тым больш, навошта гарадской сям'і трэба было ехаць працаваць у вёску, як не на вялікія грошы? А грошы Марына трымае ў руках па вялікіх святах, як і тыя, хто працуе ў саўгасе. Ніхто не верыць.

А тут яшчэ ўсім чамусьці вочы коле яе хлеў. На зарплату фельчаркі сям'ю не пракорміш, з мужа ўвогуле патрабаванні малыя: што атрымае — тут жа на «гарачую ваду» спускае. Вось і разводзіць Марына маленькіх парсючкоў на продаж. Вясковыя кабеты ў думках падлічваюць яе мільёны і пацІху зайздросцяць. Зайздрасць гэтую Марына адчувае скурай, здаецца, гэта вельмі матэрыяльная з'ява, бо літаральна выпальвае душу. Нездарма ж кажуць, што дрэнныя думкі нясуць зло. З чаго б яшчэ гэтым летам усіх парсючкоў нібыта выкасіла хвароба? Ніводнага не ўратавалі. Быццам бы нешта злое абвалілася на сям'ю, бо і маленькая дачушка моцна пакутавала летам. Замест таго, каб працаваць па гаспадарцы і нешта нарыхтаваць для зімы, Марына месяц праляжала ў бальніцы з дзіцем, якое ледзь вылечылі. Хто кажа, што ад няхваткі вітамінаў усе дзеці зараз схільныя да хвароб, а хто кажа, што нездарма ўсё, бо неяк ля хаты знайшла Марына парэзаную падушку з абпаленым пер'ем. Зроблена ўсё гэта нейкай злой рукой, упэўнена яна. Толькі за што?

Усё зайздрасць, кажа яе сяброўка Наташа. У параўнанні з Марынай той пашчасціла больш. У яе ёсць кашміровае паліто і футра з сабакі — свайго роду прадметы раскошы ў наш час. Але футра муж, расійскі вайсковец, ёй купіў у Чыце, куды павёз маладую жонку з цёплай Беларусі. Без футра яна б там зімою проста сканала. Ды і вырабы з сабакі ля кітайскай мяжы каштавалі літаральна капейкі. А паліто купілі бацькі ўжо для беларускага надвор'я, калі цяжарная дачка жыла разам з імі. Мужа да таго часу перавялі ў Падмаскоўе, якое славіцца непамерна высокімі цэнамі, а зарплату пры гэтым затрымлівалі на некалькі месяцаў. Як у такой сітуацыі было там нараджаць? І як зараз ехаць туды з дзіцяткам? Калі амаль за паўгода (на такі час у яе расцягнулася лета) узнікла прывычка да цёплай хаты, дзе заўсёды было нешта на сняданак, на абед і на вячэру.

Праўда, бацькі папраўляюць, што і там, па месцы службы, не дадуць дзецям прапасці з голаду. Так, у мінулую зіму ўсе знаёмыя па інтэрнату, дзе жывуць афіцэры з сем'ямі, ім зайздросцілі. Так і казалі: «Пашчасціла вам, што на бацькоўскіх перадачках жывяце». Прынамсі, дзякуючы гэтым перадачам яны здолелі якую-ніякую бытавую тэхніку набыць — прас, пыласос ды пральную машыну. Вось калі адразу выплачвалі заробак за некалькі месяцаў, а ў халадзільніку ў гэты час ляжаў які-небудзь шматок дамашняга сала, можна было «нечаканую» суму патраціць на нейкую вялікую рэч. А пральная машына дык увогуле нарабіла шуму на ўвесь паверх: прыходзілі глядзець і падбіваць кліны да гаспадароў, каб дазволілі калі-небудзь пакарыстацца гэтым цудам тэхнікі. А суседка насупраць увогуле прыносіла бялізну пакетамі, каб атрымаць ужо памытую. Цяпер у іх быццам бы нейкая пральня на ўвесь паверх. І як адмовіць? Скажуць — «зажаліся». А з чаго тут «зажымацца», калі на сённяшні дзень да гэтай машынкі пральнага парашку ўжо не дакупіцца? Не будзеш жа яго перавозіць упакоўкамі праз беларуска-расійскую мяжу.

Можа, Наташа і не скардзілася б на свой лёс, каб не было перад вачамі сапраўднага багацця. Навошта далёка хадзіць? Яшчэ аднакурсніца па медвучылішчу — Таня — уладкавалася лепш за ўсіх з іх выпуску. Не тое каб знайшла грашавітую працу. Нават наадварот — гадуе дома дваіх дзяцей. Ды і замуж выходзіла за простага салдата. Але звалілася на яе сям'ю з неба, можна сказаць, нечаканая спадчына замежнага родзіча. Вельмі дарэчы — перад самым вяселлем. Неўзабаве маладыя набылі ўласны дом — прасторны і ўтульны. Ды і ў доме ўсё, што патрэбна для нармальнага існавання. Былы салдат вельмі хутка звыкся з дастаткам і возіць сям'ю на ўласным аўто. Цяжка сказаць, ці мае ён прафесію, ці працуе ўвогуле. Але знаходзіць нейкія шляхі пракарміць жонку з дзецьмі. А што яшчэ трэба? У наш час і гэта многа значыць. Замежная спадчына ж не бяздонная, сама па сабе хутка канчаецца. А далей — трэба нешта думаць. Горад, дзе яны жывуць, дзякуй Богу, даволі вялікі і дазваляе знайсці варыянты заробкаў. Праўда, у цяперашні час, калі кожны новы дзень можа абяцаць сякі-такі крызіс ды абвал, магчымасцяў падзарабіць усё меней. Хто ведае, ці з'явяцца яны заўтра, ці будуць праз год? І ці не атрымаюцца з іх беспрацоўныя — пры адсутнасці стабільнай працы... Але пакуль на ежу ды касметыку для жонкі хапае.

«Не, гэта не жыццё, — сказала мая знаёмая Галіна, пачуўшы такі аповяд. — Адным шчасціць болей, другім меней. А ўпэўненасці ў заўтрашнім дні ні ў тых, ні ў гэтых няма. Проста дзеўкі не тых мужоў знайшлі».

У Галіны муж прадпрымальнік. З любой дробязі ўмее атрымаць выгаду. Працуе ў офісе, за сучасным сталом, на якім узвышаецца камп'ютэр. Адпачывалі яны летам у Турцыі. Але ж, канешне, багацце лёгка не даецца. Муж па вечарах прыходзіць раз'юшаны і амаль увесь вечар праводзіць на тэлефоне, камусьці штосьці даказвае, некага імкнецца пераканаць. Усё гэта — складанасці перыяду росту, тлумачыць ён жонцы. Яна верыць. Але ніяк не можа зразумець, чаму ягоны «перыяд» ніяк не стварае ўмоў для колькаснага росту іх сям'і. То няма часу, то з кампаньёнам разышліся, а потым дзялілі бізнес. У выніку гэтага падзелу муж вырашыў прадаць двухпакаёўку, каб выплаціць былому сябру яго частку, а сям'я іх пераехала да бацькоў. І яшчэ даўгі ёсць. Думкі пра іх не даюць прадпрымальніку спаць па начах. Але з любімай іншамаркай ён расставацца не хоча і зухавата ганяе вецер па праспектах. У багатых свае прывычкі...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**



36,6°

## ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ СВЯТАЯННІКУ



Святаяннік прадзіраўлены, непатрабавальная расліна з жоўтымі кветкамі, добра вядомая як процізапаленчы сродак у стаматалогіі, яго прымяняюць таксама унутр пры калітах як вяжучы і антысептычны сродак.

Цяпер універсітэт Паўночнай Караліны аб'явіў аб антыдэпрэсанце расліннага паходжання, г. зн. аб святаянніку як аб зброі супраць алкагалізму. У Германіі, дзе фітатэрапія надзвычай развітая, «трава Св. Іаана», як яе называюць у многіх краінах, а па-нашаму святаяннік, — найбольш часта прапісваемы сродак супраць дэпрэсіі, і таксама ў Злучаных Штатах ён упэўнена заваёўвае сабе месца. Папулярнасці святаянніку спрыяе таксама той факт, што прадаецца ён свабодна, без рэцэпта.

У навуковым свеце залежнасць паміж алкагалізмам і дэпрэсіяй не выклікае ні ў кога сумненняў, што і прымусіла амерыканскіх даследчыкаў пад кіраўніцтвам псіхіятра Аміра Х. Рэзвані паспрабаваць эфектыўнасць святаянніку на групах мышэй, адабраных па прынцыпу схільнасці да алкагалізму. Вынікі эксперыменту аказаліся выключна станоўчымі: жывёлы, якія лячыліся святаяннікам, выпівалі на 50 працэнтаў спіртнога менш, дэманструючы тым самым зніжэнне цікавасці да выпіўкі.

«Мы пакуль не ведаем, наколькі наш сродак эфектыўны для людзей, — заявіў Рэзвані, — але ставімся да яго з вялікім аптымізмам. Будучы травой, практычна не мае пабочных дзеянняў, і пры лячэнні алкагалізму гэта надзвычай важна».

**Алена ЛІЎШЫЦ.**
«АиФ-Здоровье».

## ПРАЗ МЯЖУ НЕ ПРАЕХАЛІ

З часу выхаду вядомага Дэкрэта прэзідэнта краіны аб абароне спажывецкага рынку міліцэйскія работнікі Гомельшчыны агледзелі звыш 23 тысяч транспартных адзінак, што ішлі ва Украіну і ў Расію, і выявілі больш за сто фактаў незаконнага вывазу тавараў за межы рэспублікі.

Так, адзін маскоўскі фірмач, закупіўшы ў прыватнага прадпрымальніка з Гомеля 4275 кілаграмаў свежамарожанай рыбы, вёз яе ў Расію на прыватным грузавіку. І рыба, і «ЗІЛ» судом канфіскаваны, а фірмач аштрафаваны на 25 мільёнаў рублёў. Не ўдалося завяршыць аперацыю па незаконнаму вывазу піламатэрыялаў у Расію на 114 мільёнаў рублёў і двум вадзіцелям з абласнога цэнтра і Калінкавіч. Такі ж лёс напаткаў і жыхара Барысава, які спрабаваў даставіць у адну з маскоўскіх кампаній каля шасці тысяч квадратных метраў драўнінна-валакністых пліт.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



## Бутэлькі з Расіі

Новы від бізнесу асвоілі прадпрымальныя жыхары прыгранічнага з Расіяй Веткаўскага раёна — арганізавалі прыём шклатары па вёсках Бранскай вобласці. З-за фінансавых праблем тутэйшыя вяскоўцы забыліся, што такое прыёмны пункт, і вымушаны закопваць шклатару ў зямлю. Не атрымліваючы зарплаты па некалькі гадоў, яны гатовы аддаць за бесцань усе бутэлькі і слоікі. Так што некаторыя ваяжоры за адзін рэйс прывозяць на легкавым аўтамабілі з прычэпам да паўтары тысячы бутэлек.

На здымку: на кантрольным пункце міліцыі рэйдавая брыгада правярае груз «бутэлечнага» прадпрымальніка.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# ПАСЛЯ «ГРАНІЦЫ» ЗЛАЧЫНЦЫ ХОДЗЯЦЬ ХМУРНЫЯ

**Беларускія і расійскія міліцыянеры з поспехам правялі сумесную аперацыю па аздараўленню крымінагеннай сітуацыі ў памежных раёнах абедзвюх краін.**

Крымінальнікі з Беларусі і Расіі на ўласнай скуры адчулі, што жывуць у Саюзе. Дакладней, праваахоўныя органы абедзвюх краін прадэманстравалі парушальнікам закона сваё ўменне працаваць зладжана і эфектыўна, бліскуча правёўшы сумесную аперацыю «Граніца».

Аб выніках гэтай аперацыі карэспандэнт «Звязды» папрасіў расказаць начальніка Камітэта па арганізаванай злачыннасці пры МУС Беларусі **Міхаіла МЯДЗВЕДЗЕВА.**

**— Міхаіл Міхайлавіч, беларуска-расійская мяжа апошнім часам, здавалася, знаходзілася пад даволі пільнай увагай праваахоўных органаў нашай краіны. Варта нагадаць, што пасля ўступлення ў сілу ў верасні гэтага года вядомага прэзідэнцкага Дэкрэта на барацьбу з несанкцыяніраваным вывазам тавараў з Беларусі былі кінуты значныя сілы праваахоўных і кантралюючых органаў. І вось чарговая буйнамаштабная аперацыя ў памежных рэгіёнах. Наколькі мэтазгодна было траціць на яе правядзенне сілы і сродкі?**

— Найперш нагадаю, што гэтая аперацыя фінансавалася з саюзнага бюджэту, паколькі праводзілася ў рамках выканання Праграмы «Барацьба з рознымі формамі арганізаванай злачыннасці на тэрыторыі дзяржаўм — удзельніц Саюза Беларусі і Расіі на перыяд да 2000 года».

А наконт мэтазгоднасці яе правядзення самі за сябе сведчаць вынікі. Падчас аперацыі ўзбуджана 289 крымінальных спраў, раскрыта 259 злачынстваў, у тым ліку 24 злачынствы, якія былі ўчынены арганізаванымі групамі. Па падазрэнню ва ўчыненні злачынстваў затрымана 101 чалавек, а таксама 34 асобы, якія знаходзіліся ў міждзяржаўным вышуку. У злачынцаў канфіскавана 6 адзінак зброі, 41,5 кілаграма і 2,5 літра наркатычных сродкаў, 11 адзінак транспартных сродкаў, тавараў і матэрыяльных каштоўнасцяў на суму каля 90 мільярдаў беларускіх рублёў.

Дарэчы, нам удалося раскрыць шэраг эканамічных злачынстваў і спыніць незаконны вываз тавараў за межы краіны.

Але самым галоўным і самым каштоўным вынікам аперацыі, на маю думку, з'явілася магчымасць цеснага супрацоўніцтва з расійскімі калегамі. Без такога ўзаемадзеяння мы не змаглі б раскрыць многія злачынствы і затрымаць іх удзельнікаў.

Больш таго, гэтыя кантакты вельмі спатрэбяцца нам і ў далейшым.

**— Якія з выяўленых падчас аперацыі злачынстваў вы маглі б прывесці ў якасці прыкладаў цеснага супрацоўніцтва з расійскімі калегамі?**

— Такіх прыкладаў даволі шмат. Прывяду толькі найбольш яскравыя.

Па аператыўнай інфармацыі нашых гомельскіх супрацоўнікаў, калегі з МУС Расіі затрымалі ў Маскве жыхара Гомеля Ш., які на працягу трох гадоў знаходзіўся ў міждзяржаўным вышуку па падазрэнню ў крадзяжы 560 тысяч долараў. Гэты грамадзянін, між іншым, быў адным з сузаснавальнікаў АКБ «Сож» і дапамагаў гомельскім крымінальным групоўкам «адмываць» грошы.

Дзякуючы аператыўнай інфармацыі, якой з супрацоўнікамі ўпраўлення па арганізаванай злачыннасці па Віцебскай вобласці падзяліліся расійскія калегі, на адным з заводаў харчовых прадуктаў было выяўлена 16 тон спірту, які адна з маскоўскіх фірмаў планавала вывезці ў Расію.

У Магілёўскай вобласці заводзе было затрымана каля 4 тон спірту-рэктыфікату і больш як 42 тоны спірту-сырцу, які паступіў з Масквы па фальшывых дакументах.

У Хоцімску нашымі супрацоўнікамі быў затрыманы аўтамабіль «Урал» з 13 тонамі спірту, які незаконна вывозіўся ў Расію.

Дарэчы, падчас аперацыі на памежных тэрыторыях Беларусі і Расіі было спынена нямала кантрабанднага спірту.

**— Агульнавядома, што злачыннасць не мае межаў і арганізаваныя крымінальныя групоўкі на прасторах былога СССР даволі цесна ўзаемадзейнічаюць. Аперацыя «Граніца» пацвердзіла гэтае меркаванне?**

— Так, выяўленыя намі злачынствы сведчаць аб тым, што беларускія і расійскія арганізаваныя крымінальныя групоўкі маюць трывалыя сувязі.

Напрыклад, у Пскоўскай вобласці ў лесе былі выяўлены два склады боепрыпасаў, у якіх, у прыватнасці, знаходзілася 323 міны, 47 гранат. Паводле аператыўнай інфармацыі, увесь гэты смяротны тавар быў падрыхтаваны для вывазу ў Беларусь. Як нам стала вядома, на тэрыторыі Беларусі і Расіі дзейнічае арганізаваная злачынная група, якая займаецца незаконным гандлем зброяй.

Альбо вось такі прыклад крымінальнай «інтэграцыі». Сумесна з калегамі з Бранскай вобласці намі затрыманы неаднаразова судзімы грамадзянін І., які ўзначальваў злачынныя групоўкі адначасова ў расійскім горадзе Клінцы і ў беларускім горадзе Рэчыца Гомельскай вобласці.

І гэтыя прыклады яшчэ раз пацвярджаюць правільнасць выбранага курсу на аб'яднанне намаганняў у барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Таму сумесная аперацыя «Граніца» — не апошняя. Мы і надалей будзем цесна ўзаемадзейнічаць з расійскімі калегамі ў барацьбе са злачынным «спрутам».

**Мікола ДЗЯБЕЛА.**

## Хабарнікі ў пагонах

Пракуратурай Віцебскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа супраць оперупаўнаважанага Кастрычніцкага РАУС Ш., які ў памяшканні аддзела міліцыі атрымаў хабар у памеры 1 мільёна рублёў ад грамадзянкі В. за садзейнічанне ў вызваленні яе ад адказнасці за збыт наркатычных рэчываў.

Абвінаваўчым прыгаворам суда Першамайскага раёна Віцебска ў выглядзе шасці гадоў пяці месяцаў і пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці закончыўся разгляд крымінальнай справы, якая расследавалася пракуратурай у адносінах да былога начальніка спецкамендатуры пры Лёзненскім РАУС і оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку. Судом яны прызнаны вінаватымі ў атрыманні хабару за спрыяльнае вырашэнне пытання аб датэрміновым вызваленні асуджаных.

**Аляксей ТАРАНАЎ, начальнік прэс-цэнтра Пракуратуры Беларусі.**

## Фірма ў роспачы

Дзіўны крадзеж, які не паддаецца ніякай логіцы, адбыўся ў Гомелі. З незамкнёнага на выхадныя дні кабінета офіса адной з вытворча-камерцыйных фірмаў нехта ўкраў 16.300 амерыканскіх долараў, мэблю, факсімільны і тэлефонны апараты.

Памяшканне гэта вартаўніком не ахоўвалася, што, вядома ж, дрэнна. Але куды горш тое, што ў такі крымінальны час чамусьці кабінеты офіса не замыкаюцца. Халатнасць ці нешта іншае? І яшчэ пытанне: чаму кіраўнікі фірмы звярнуліся ў міліцыю толькі на другі дзень пасля выхадных?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## На плотку — з электравудай

Зусім распераазаліся злосныя браканьеры ў Добрушскім раёне, якія дзейнічаюць нахабна, наносячы прыродзе вялікі ўрон.

Прымяняючы на рацэ Іпуць і азёрах электравуды, яны знішчаюць у вадзе ўсё жывое. Аматары рыбнай лоўлі скардзяцца: хутка могуць настаць такія часы, што на простую вуду нічога не зловіш.

І маюць рацыю ў сваіх разважаннях, бо сёлета ў раёне выяўлена ўжо каля дзесяці электравудзільшчыкаў, якіх прадстаўнікі прыродаахоўных арганізацый і міліцыі ўзялі «цёпленькімі» на вадзе за браканьерскай справай.

І што ж? Толькі трое з іх асуджаны на адзін год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай пакарання. Астатнія ж абышліся лёгкім спалохам — штрафамі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.532. Індэкс 63850.
Зак. № 6005.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12